# Голас Радзімы

220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44. Цана 17 000 рублёў.

4 САКАВІКА 1999 ГОДА
№ 9 (2619)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі. Выдаецца з 1955 г.


НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ



*Сяргей Галавецкі ў 1982 годзе скончыў архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Нейкі час працаваў асістэнтам у аб'яднанні "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм", затым паступіў ва Усесаюзны інстытут кінематаграфіі, які скончыў у 1991 годзе, і вярнуўся на студыю. Неаднаразова ўдзельнічаў у міжнародных фестывалях. Сярод фільмаў, пастаўленых рэжысёрам-кінадакументалістам Сяргеем Галавецкім, — "Крыж ля дарогі", "Опера", "Голас", "Паралельныя танальнасці", "Душа мая...". Асноўныя тэмы, якія цікавяць яго, — духоўная спадчына, культура.*

*На IX кінафестывалі неігравога кіно "Расія" ў Екацярынбургу за стужку "Медагляд" рэжысёр атрымаў прыз "За гуманізм у мастацтве". Сёння Сяргей ГАЛАВЕЦКІ — наш госць.*

# РАССТАЮЧЫСЯ — АЗІРНІСЯ

**1999 год**, згадзіцеся, незвычайная дата і цісне на свядомасць, як няўстойлівая нота. А калі дадаць яшчэ адзін год, то атрымаецца 2000... Няўжо мы з вамі сведкі гэтага сакраментальнага рубяжа?.. А калі так, ці адчуваем мы незвычайнасць гэтай даты?..

Што тычыцца мяне, то мне здавалася, што я не адчуваю... Я нават Новыя гады не запамінаю, такія яны для мяне падобныя...

Мой дваюрадны брат, які ваяваў у Афганістане, неяк заўважыў: "...Мяне здзіўляе, як па тэлевізары іншы ветэран успамінае пра вайну: "...Левы фланг арміі наступаў, цэнтр утрымліваў праціўніка, правы рабіў ілжывы манеўр..." І пры гэтым ён быў усяго толькі сяржантам пяхоты. Але калі ты сяржант, то можаш бачыць толькі сопку перад сабой і больш нічога... Якія тут, да д'ябла, манеўры арміі?.."

Як усякі прафесіянал, я, на жаль, таксама гляджу на свет праз шоры сваёй прафесіі і бачу толькі сваю "сопку", якая зусім не здаецца мне рубяжом тысячагоддзяў. І тым больш незвычайна бывае раптам заўважыць, што гэтая сопка якраз і ёсць той самы рубеж...

У час адной тэлевізійнай канферэнцыі ў Падмаскоўі я паказваў калегам свой дакументальны фільм "Медагляд" пра абследаванне жыхароў адной вёскі ў чарнобыльскай зоне... Карціна знешне вельмі простая і сціплая, камера паказвае вясковую штодзённасць некалькіх старых, якая ненадоўга перапыняецца штогадовым планавым візітам урачоў... Потым урачы ад'язджаюць, а старыя зноў застаюцца ў гэтай пакінутай людзьмі вёсцы...

Фільм атрымаўся вельмі сумным, і таму што вёска — у чарнобыльскай зоне, і таму што — старыя, і таму што побыт старых на ўзроўні пачатку стагоддзя... У фінальным кадры ля плота стаіць жанчына і ціха плача...

Фільм зрабіў моцнае ўражанне на калег. Адзін маскоўскі крытык устаў, падышоў да экрана і сказаў: "Фільм не проста добры, ён вельмі добры, але ў ім не хапае фінальнага цітра: канец ХХ стагоддзя".

І ад гэтага рэзкага сутыкнення трагедыі маленькай беларускай вёскі Прудок з канцом ХХ стагоддзя я раптам адчуў лёсаноснасць у кожнай пляве чалавечага жыцця, у тым ліку, а можа быць, нават у першую чаргу, і ў героях майго невялікага фільма. А калі быць да канца шчырым, то гэтае адчуванне незвычайнага рубяжа я адчуў ужо тады, у зоне... Наш "рафік" быў як машына часу, у якой мы пагружаліся ў мінулае... Кінутыя вёскі, пустыя праёмы вокнаў, абарваныя правады, гул у вушах і металічны прысмак на вуснах... І раптам — людзі, што жывуць звычайным сялянскім жыццём, як быццам нічога не здарылася... Ужо тады, здымаючы гэтых людзей, я інтуітыўна адчуў, што фільм не пра Чарнобыль... А пра што ж?.. Бо гэтых старых (а засталося іх усяго дзевяць чалавек) ніхто не прымушаў заставацца, наадварот, іх ледзь не сілай стараліся перасяліць на новыя месцы. І яны добраахвотна выбралі: застацца ў сваіх дамах, у сваёй вёсцы...

Толькі ў час мантажу я нарэшце сфармуляваў, пра што на самай справе атрымліваецца кіно... Гэта фільм аб адыходзячым Космасе сялянскай абшчыны, які даўно ўжо непрыкметна знікае, рассітае, як айсберг, пад націскам жорсткіх промняў цывілізацыі. А Чарнобыль толькі інтэнсіфікаваў гэты працэс, ураз разарваўшы тое, што павінна было адбывацца паступова, каб паспяваў перацякаць і назапашвацца ў генах той вопыт і тая мудрасць...

Для гэтых дзевяці старых пераехаць на новыя месцы — тое самае, што перасяліцца на Месяц... Яны там усё роўна не прыжывуцца, так яны зрасліся, спляліся, зрадніліся са сваім домам, дваром, агародам, ракой... Яны — частка гэтага ўсяго і памруць разам з гэтым усім, не ўсведамляючы ні гераізму, ні патэтычнага трагізму, ні дакору, ні прыгажосці гэтага ўчынку. Гэта іх існасць... Яны засталіся, таму што яны — яшчэ тыя, а мы паехалі, таму што мы — ужо іншыя. Між намі ўтварылася шчыліна, якая будзеператварацца ў бездань, калі не запоўніць гэтую шчыліну традыцыяй, пераемнасцю... Сколькім пакаленням трэба назапашваць пачуццё свайго дому і свайго месца, каб нават смерць не магла адарваць, аддаліць, адслаць цябе ад роднай глебы...

**Ці ў стане** чалавек, народжаны ў блочнай бетоннай архітэктуры, зразумець чалавека, народжанага ва ўласным доме, напоўненым жывымі пахамі і гукамі?.. Думаю, што гэта два прынцыпова розныя пункты гледжання на свет, і я, на жаль, належу да другога. Сувязь часоў сапраўды перарвалася, і ў пагоні за стагоддзем, якое адыходзіць, баючыся спазніцца ў стагоддзе новае, мы забываем, а можа быць, нават баімся азірнуцца на тую маленькую вёсачку ў чарнобыльскай зоне, дзе, быць можа, застаўся кавалачак нашай душы... А як нам будзе з няпоўнай душой у трэцім тысячагоддзі?.. Думаю, што вельмі сумна...

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

**Шаноўная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!**

**Мы атрымліваем вашу газету. У № 50 пытаецеся, ці задаволены чытачы газетай. Зразумела, што так. Просім дасылаць і ў далейшым. Нас, як моваznаўцаў, цікавіць становішча беларускай мовы.**

**З павагай** **Тэрэза АСІТ і Вайлес БРАЎН.**

ЗША. Нью-Йорк.

* * *

**Дзякуй за "Голас Радзімы", які атрымлівала ў 1998 годзе. Усе артыкулы вельмі цікавыя. Адкуль столькі матэрыялаў гістарычных! Прашу: нагадайце нумар рахунка ў банку: хачу заплаціць за газету. Ніхто цяпер падарункаў рабіць не можа.**

Польшча. **Браніслава РУТКОЎСКА.**

*АД РЭДАКЦЫІ.* Валютны рахунак Дзяржаўнага прадпрыемства "Дом прэсы": 3630202930029 Славянскае аддзяленне Беларускага Бізнесбанка, код 834 (для рэдакцыі газеты "Голас Радзімы").

* * *

**Дарагія суайчыннікі! Пасылаю вам перавод (чэкам) 50 долараў ЗША на працяг падпіскі на газету "Голас Радзімы" ў 1999 годзе. Жадаю вам творчых поспехаў у вашай сумленнай працы і ўсяго самага лепшага ў вашым жыцці.**

**Са шчырым прывітаннем** **Т. КУЦ.**

Канада. Ванкувер.

*АД РЭДАКЦЫІ.* Шаноўная спадарыня Куц! Удзячныя Вам за падтрымку.

* * *

**Шаноўная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!**

**З вялікай радасцю я прыняў прыход 2-х нумароў газеты "Голас Радзімы" №№ 50 і 51—52. Дзякуй вам, працаўнікі шаноўнай рэдакцыі, якая сваімі артыкуламі ўсцяшае многіх нас за мяжой нашай Бацькаўшчыны! І я адзін з іх. Ляжу на ложку, а пасоўваюся па пакоі на інваліднай калясцы. Добра, што навучыўся пісаць лежачы, і гэта мне дае радасць! Вы не ўяўляеце, як прыемна ў такой сітуацыі атрымаць новы нумар газеты з весткамі з нашай дарагой Бацькаўшчыны!**

**Вялікіх поспехаў у працы!**

Польшча. **Францішак БЕРНІКОВІЧ.**

* * *

**Жадаю рэдакцыі ўсяго найлепшага ў творчасці і працы на карысць роднага слова.**

Польшча. **Мікалай ПАНФІЛЮК.**

* * *

**Жадаю новаму калектыву рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" поспехаў і плённай працы.**

**З павагай** **Вольга ГАЛАВАШКІНА-КРАМАРЭНКА.**

Эстонія. Талін.

* * *

**"Голас Радзімы" прыносіць нам добрыя весткі, і мы з прыемнасцю іх чытаем.**

**З прывітаннем** **Вітаўт РАМУК.**

ЗША. Чыкага.

7 стар.

ВІНШУЕМ!



У літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску сабраліся вядомыя акцёры, пісьменнікі, кампазітары, каб павіншаваць паэта Уладзіміра Някляева з прысуджэннем яму Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы ў галіне літаратуры за зборнік вершаў і паэм "Прошча". На вечары гучалі творы Уладзіміра Някляева, папулярныя песні на яго вершы.

*На здымку:* лаўрэата (справа) віншуюць паэтэса Раіса БАРАВІКОВА, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Святлана СУСЕТЧЫК, паэт Генадзь БУРАЎКІН.

## Тыдзень: Фотафакты.



24 лютага Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА сустрэўся з пасламі арабскіх дзяржаў і кіраўніком Прадстаўніцтва Лігі арабскіх дзяржаў.



Своеасаблівай творчай справаздачай аб паездцы ў Германію стала адкрыццё ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі выставы работ аднаго з вядучых майстроў акварэлі Беларусі Фелікса ГУМЕНА.

Адным з першых зарэгістравана і найбольш паспяхова дзейнічае ў свабоднай эканамічнай зоне "Брэст" сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства "Дэльта-Буг". Прадукцыя яго, якая ідзе ў асноўным на афармленне вокнаў, — розныя карнізы, жалюзі, еўрашторы — вырабляецца па тэхналогіях вядучых сусветных вытворцаў і таму карыстаецца попытам не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах СНД.

*НА ЗДЫМКУ: упакоўшчык-канструктар Ірына ЖЭРБУН з гатовай прадукцыяй.*






У Мінску адкрыўся першы ў Беларусі боўлінг-цэнтр. Стваральнікі гэтага спартыўнага збудавання спадзяюцца, што боўлінг стане ў сталіцы такім жа папулярным відам спорту і забаў, як і ў многіх іншых краінах свету.

**Фотахроніка БелТА.**

## Міжнародны агляд.

● **Юрась ДОМНІЧ.**

### З АРАБСКІМ СВЕТАМ ТАКСАМА ЁСЦЬ АСНОВА ДЛЯ ДЫЯЛОГА

Першы афіцыйны замежны візіт у гэтым годзе парламентарыі Нацыянальнага сходу Беларусі здзейснілі ў Кувейт. Пачаўся ён 22 лютага. Узначальваў беларускую дэлегацыю старшыня Савета Рэспублікі Павел Шыпук.

На працягу некалькіх дзён члены Нацыянальнага сходу пазнаёміліся з дзяржаўнай пабудовай Кувейта і мелі сустрэчы з кіраўніцтвам краіны: эмірам Кувейта шахам Джаберам аль-Ахмедам аль-Джаберам ас-Сабахам, кіраўніком Нацыянальнага сходу Ахмедам Абдул-Азіс аль-Садонам, прэм'ер-міністрам (наследным прынцам) і адначасова міністрам нафтавай прамысловасці шэйхам Саадам аль-Абдалой ас-Салемам ас-Сабахам. П. Шыпук, разважаючы пра мэты візіту, паведаміў, што члены парламента імкнуцца не толькі да развіцця міжпарламенцкага супрацоўніцтва, але і жадаюць паспрыяць паглыбленню эканамічных зносін. Па гэтай прычыне члены дэлегацыі правялі сустрэчы з мясцовымі бізнесменамі ў Фондзе арабскага эканамічнага развіцця.

Мінск таксама ніколі не бачыў такой колькасці гасцей з арабскага свету, як у мінулыя дні. 23 лютага ў беларускую сталіцу прыехалі кіраўнікі чатырнаццаці дыпламатычных місій, кіраўнікі прадстаўніцтваў Лігі арабскіх дзяржаў, якія акрэдытаваны ў Маскве. Першы намеснік міністра замежных спраў Сяргей Мартынаў, каменціруючы гэтую падзею, заявіў, што беларускія ўлады ўскладваюць вялікія спадзяванні на перамовы з такімі рэдкімі гасцямі. "Для нас узаемаадносіны з гэтымі дзяржавамі ўяўляюць асаблівы інтарэс. Тыпы эканомік Беларусі і арабскіх краін сумяшчальныя ў тым сэнсе, што мы можам быць экспарцёрамі сваёй прадукцыі", — заявіў Мартынаў. Па яго словах, афіцыйны Мінск спадзяецца збалансаваць знешнегандлёвае сальда за кошт павелічэння долі экспарту ў Азію, на Блізкі Усход і ў краіны Афрыкі.

Таму не дзіўна, што на перамовах арабскіх дыпламатаў з міністрам замежных спраў Уралам Латыпавым, Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам галоўнай была тэма эканамічнага супрацоўніцтва. Дарэчы, госці падчас знаходжання ў Мінску наведалі трактарны завод, завод колавых цягачоў, механічны завод імя Вавілава і Беларускае оптыка-механічнае аб'яднанне. На апошнім дыпламатаў моцна зацікавіла экспазіцыя элементаў касмічных прыбораў, аптычныя прыцэлы для ваеннай тэхнікі, стралковай і паляўнічай зброі. Ваенная тэма арабскіх гасцей цікавіла не менш, таму яны пабывалі яшчэ і ў Ваеннай акадэміі.

### У СТАСУНКАХ З ЕЎРАПЕЙСКІМ САЮЗАМ НАЗІРАЕЦЦА "АДЛІГА"

Пэўныя зрухі адбыліся і ў адносінах з Еўрапейскім саюзам. У прыватнасці, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч прыняў кіраўніка прадстаўніцтва Еўрапейскай камісіі ва Украіне і Беларусі Андрэ ван Вербека па яго просьбе. Размова на сустрэчы вялася пра перспектывы рэалізацыі ў Беларусі праектаў праграмы TACIS. Не выпадкова ў сустрэчы браў удзел намеснік кіраўніка аддзялення прадстаўніцтва Еўракамісіі ў Беларусі "TACIS офіс" Рауль дэ Лузенбергер.

Але яшчэ напярэдадні стала вядома, што адзін з важных праектаў TACIS "Эканамічныя тэндэнцыі ў Беларусі", які ажыццяўляецца ўжо на працягу трох гадоў, падоўжаны да лютага 2000 года. Больш таго, цяпер да рэалізацыі гэтай праграмы далучаецца Лонданская школа бізнесу. Мэтай праекта з'яўляецца незалежная экспертыза і аналіз эканамічнай сітуацыі ў Беларусі. Вынікі даследаванняў штомесяц і штоквартал друкуюцца ў выглядзе бюлетэняў. Прадугледжваецца, што сёлета бюлетэні будуць ужо даступнымі і для карыстальнікаў Інтэрнэта. У межах праекта таксама будзе арганізавана некалькі семінараў для членаў урада і прадстаўнікоў прадпрымальніцкіх колаў.

На сустрэчы Андрэ ван Вербека з М. Мясніковічам, верагодна, абмяркоўвалася яшчэ адно прынцыповае для ўладаў Беларусі пытанне. Неўзабаве пасля перамоў Міністэрства замежных спраў краіны распаўсюдзіла спецыяльнае паведамленне для прэсы, дзе гаворыцца, што "22 лютага ў Люксембургу Савет Еўрапейскага саюза на ўзроўні міністраў замежных спраў дзяржаў — членаў ЕС прыняў рашэнне аб адмене Агульнай пазіцыі ЕС ад 9 ліпеня 1998 года аб візавых абмеркаваннях на ўезд у краіны ЕС адкзных асоб Рэспублікі Беларусь". Трэба нагадаць, што абмежаванні на ўезд для кіраўніцтва дзяржавы, членаў урада былі прыняты пасля скандалу вакол комплексу "Драздэ" ў Мінску, дзе пражывалі замежныя дыпламаты. Адначасова МЗС падкрэслівае, што пры прынцыці апошняга рашэння была адзначана зацікаўленасць Еўрасаюза ў прадаўжэнні канструктыўнага дыялога з Беларуссю.

Кіраўніцтва Еўрапейскага саюза праводзіць сустрэчы не толькі з афіцыйнымі ўладамі, але прымае і прадстаўнікоў апазіцыі. Так, дэлегацыя беларускай праваабарончай арганізацыі "Хартыя-97" наведала з шасцідзённым візітам Францыю, Бельгію і Германію. Яе члены, падводзячы вынікі паездкі, адзначылі, што, у прыватнасці, з беларускімі праваабаронцамі сустрэўся Генеральны сакратар Савета Еўропы Даніэл Таршыс. Дагэтуль ён ніколі не сустракаўся ні з прадстаўнікамі афіцыйных уладаў Беларусі, ні з апазіцыяй. У Брусэлі членаў дэлегацыі прынялі дэпутаты Еўрапарламента і супрацоўнікі юрыдычных службаў гэтай арганізацыі. У Боне госці з Беларусі былі прынятыя ў Міністэрстве замежных спраў Германіі і іншых урадавых структурах.

### БЕЛАРУСЬ І УКРАІНА ПЕРАКЛЮЧАЮЦЦА НА РЭГІЯНАЛЬНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Дэлегацыя дзелавых колаў Беларусі на чале з паслом па асобых даручэннях Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь Васілём Шаладонавым наведала Украіну.

Госці з Беларусі бралі ўдзел у сустрэчы з дзелавымі коламі Запарожскай і Данецкай абласцей. Гэта была першая сустрэча, арганізаваная беларускім бокам пры актыўным садзейнічанні украінскіх абласных адміністрацый у мэтах развіцця двухбаковага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва на рэгіянальным узроўні.

### БЕЗ ТЭРМІНУ ДАЎНАСЦІ

Суд прысяжных з Лондана ў поўным складзе выправіўся непасрэдна ў беларускім пасёлку Дамачава азнаёміцца з дзеяннямі былога ваеннага злачынцы Андрэя Саванюка, які жыве ў Англіі. Узначальвае англійскі "дэсант" суддзя Хэмфры Потс. Па чарзе, спачатку судзейская брыгада разам з прадстаўнікамі абароны і абвінавачання, а затым асобна 12 прысяжных наведаць, аглядзелі ў Дамачове дом, дзе жыў Андрэй Саванюк, месцы, дзе знаходзілася ў гады вайны паліцэйская камендатура, яўрэйскае гета і дзе праходзілі масавыя расстрэлы мірных жыхароў.

*НА ЗДЫМКУ: служыцелі англійскай Феміды ля былога дома Саванюка, які ён перавёў з яўрэйскага гета, забіўшы яго ранейшых жыхароў.*





## КЛУБ ДЗЕЛАВЫХ ЛЮДЗЕЙ

### ІНФАРМАЦЫЯ АБ ПАРАДКУ АТРЫМАННЯ ШМАТРАЗОВЫХ ДЗЕЛАВЫХ ВІЗ

Для афармлення шматразовых дзелавых віз у Консульскае ўпраўленне Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь падаюцца наступныя дакументы:

**1. Заяўка.**

**2. Адна візавая анкета з наклеенай фатаграфіяй.**

**3. Ксеракопія старонак пашпарта замежнага грамадзяніна з устаночнымі данымі і апошняй беларускай візай.**

**Для кіраўнікоў, заснавальнікаў сумесных і замежных прадпрыемстваў і членаў іх сямей, работнікаў прадстаўніцтваў замежных фірм, банкаў і членаў іх сямей, а таксама кіраўнікоў замежных фірм, якія маюць сваё прадстаўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь,** патрабуецца заяўка ў Консульскае ўпраўленне, адпаведна, ад Міністэрства знешніх эканамічных сувязей (вуліца Мяснікова, 29, тэлефон 220-46-27) ці Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

**Для асоб, якія актыўна ўдзельнічаюць у развіцці міжрэгіянальных і міжмуніцыпальных сувязей,** патрабуецца заяўка ў Консульскае ўпраўленне ад аблвыканкомаў ці Мінскага гарвыканкома (у адпаведнасці з месцам дзейнасці).

**Спецыялістам і экспертам, якія прыбываюць у Рэспубліку Беларусь для ажыццяўлення кансультацый і іншых форм міжнароднага супрацоўніцтва па лініі міністэрстваў і ведамстваў,** патрабуецца заяўка ў Консульскае ўпраўленне ад адпаведнага міністэрства ці ведамства.

**Для асоб, якія актыўна ўдзельнічаюць у рабоце па аказанні дабрачыннай ці гуманітарнай дапамогі, і членаў іх сямей** патрабуецца заяўка ў Консульскае ўпраўленне ад Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь, аблвыканкомаў ці Мінскага гарвыканкома. У выпадку неабходнасці атрымання бясплатнай візы ў пісьме павінна ўтрымлівацца просьба аб гэтым са спасылкай на адпаведную Пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**У іншых выпадках (у т. л. па запрашэнні юрыдычнай асобы, зарэгістраванай на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь)** неабходная заяўка ў Консульскае ўпраўленне (гл. прыкладны ўзор), узгодненая ў Камітэце па міграцыі пры Міністэрстве працы Рэспублікі Беларусь (праспект Машэрава, д. 23, корпус 2, кабінет 701, упраўленне знешняй працоўнай міграцыі, тэлефон 223-45-14).

Шматразовая дзелавая віза выдаецца на тэрмін **ад аднаго года** (для грамадзян Літвы, Латвіі, Эстоніі — **да шасці месяцаў**), колькасць уездаў у Рэспубліку Беларусь і час знаходжання на працягу тэрміну дзеяння візы неабмежаваныя.

**Шматразовая дзелавая віза не выдаецца ў выпадку першага звароту** замежнага грамадзяніна, які мае намер прыбыць у Рэспубліку Беларусь з дзелавымі мэтамі (г. зн. у яго пашпарце павінна ўжо быць уязная віза Рэспублікі Беларусь любой кратнасці).

Рашэнне аб выдачы візы прымаецца ў тэрмін **да аднаго месяца** пасля здачы ўсіх неабходных дакументаў.

Пасля прыняцця Консульскім упраўленнем станоўчага рашэння па заяўцы шматразовая дзелавая віза можа быць атрымана ў любой консульскай установе Рэспублікі Беларусь за рубяжом.

Пры атрыманні візы ў Консульскім упраўленні консульскі збор за афармленне штамразовай візы складзе 300 (трыста) долараў ЗША; для жыхароў Латвіі, Літвы і Эстоніі — 50 (пяцьдзесят) долараў ЗША. Аплата робіцца наяўнай валютай (доларамі ЗША) у дзень атрымання візы ў Гарадской дырэкцыі Белбізнесбанка (г. Мінск, вуліца Леніна, 16). Падставай для аплаты служыць рахунак, выпісаны ў Консульскім упраўленні.

### ПРЫКЛАДНЫ ЎЗОР ЗАЯЎКІ НА АФАРМЛЕННЕ ШМАТРАЗОВАЙ ДЗЕЛАВОЙ ВІЗЫ

**Камітэт па міграцыі пры Міністэрстве працы Рэспублікі Беларусь**

**Консульскае ўпраўленне Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь**

**Просім выдаць шматразовую дзелавую візу тэрмінам на ... грамадзяніну ... (грамадзянства) Прозвішча, імя, імя па бацьку (па-руску, а таксама ў тым напісанні, як гэта значыцца ў пашпарце), дата нараджэння, нумар пашпарта.**

**Падрабязна ўказваюцца мэта знаходжання і род заняткаў (займаемая пасада) у Рэспубліцы Беларусь.**

**Абавязуемся забяспечыць рэжым знаходжання замежнага грамадзяніна ў Рэспубліцы Беларусь.**

**Кіраўнік прадпрыемства**

**Прозвішча, імя, імя па бацьку.**

**(пячаць)**

**Заяўка афармляецца на фірменным бланку прадпрыемства з указаннем рэгістрацыйнага нумара і даты. У выпадку адсутнасці фірменнага бланка, у верхняй частцы заяўкі ўказваюцца ўсе рэквізіты прадпрыемства. Заяўка падпісваецца кіраўніком прадпрыемства і завяраецца пячаццю.**

**Заяўкі з папраўкамі і дабаўленнямі да разгляду не прымаюцца!**

Абавязацельства аб выкананні рэжыму знаходжання замежнага грамадзяніна ў Рэспубліцы Беларусь азначае неабходнасць яго рэгістрацыі ў органах пашпартна-візавай службы (былыя ОВІРы) па месцу знаходжання.

Заяўка на візу "на работу" афармляецца аналагічным чынам. Дадаткова да заяўкі ўказваюцца нумар, дата выдачы і тэрмін дзеяння ліцэнзіі на прыцягненне замежнай рабочай сілы ў Рэспубліку Беларусь, а таксама прадстаўляецца арыгінал і ксеракопія ліцэнзіі. Узгадненне ў Камітэце па міграцыі пры Міністэрстве працы Рэспублікі Беларусь з'яўляецца абавязковым.

* * *

У выніку заканчэння тэрміну дзеяння аднаразовай візы неабходна звяртацца ў абласную пашпартна-візавую службу па месцу жыхарства для прадаўжэння рэгістрацыі альбо для атрымання выязной візы. Грамадзянам, якія прыбылі па запрашэнні мінскіх арганізацый, неабходна звяртацца ў АПВС УУС Мінгарвыканкома (тэлефон 231-38-09).

**Даведкі па пытаннях афармлення віз на ўезд у Рэспубліку Беларусь:**

**тэл. 222-26-61, з 11.00 да 13.00 і з 14.00 да 18.00.**

**Прыём па пытаннях выдачы віз вядзецца ў Консульскім упраўленні па ўсіх рабочых днях, акрамя серады з 9.00 да 11.00.**




З 16 па 18 лютага ў Мінску ў Нацыянальным выставачным цэнтры "БЕЛЭКСПО" праходзіў VI Міжнародны кніжны кірмаш і V Міжнародная спецыялізаваная выстава "Combit-99", прысвечаная сучасным тэхналогіям у выдавецтве, паліграфіі і рэкламе. Выставу адкрылі старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь Міхаіл Падгайны і старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Расіі Іван Лапцеў. Міхаіл Падгайны павіншаваў прысутных са значнай падзеяй у культурным жыцці і падкрэсліў: "Я ўпэўнены, што кнігавыдаўцы і кнігараспаўсюджвальнікі робяць вельмі важную справу: яны развіваюць інтэлект нашага грамадства і садзейнічаюць яго прагрэсу.

Апошнім часам можна пачуць меркаванне, нібыта з развіццём электронных сродкаў масавай інфармацыі кніга згубіць сваю ролю і перастане існаваць наогул, а паліграфія як галіна вытворчасці знікне. Упэўнены, што гэта такія ж спрэчкі, як былі калісьці наконт тэлебачання. Гаварылі, што з яго з'яўленнем зачыняцца тэатры і кінатэатры. Я думаю, што кніга, як і тэатр, будзе жыць заўсёды, бо кнігі — гэта мастацтва, творчасць, партрэт нацыі. Кожная з іх — партрэт нацыянальнага кнігавыдавецтва".

Арганізавалі кірмаш Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку, Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў і вытворча-камерцыйнае таварыства з абмежаванай адказнасцю "Макбел".

У кірмашы ўзялі ўдзел каля 300 фірмаў. Для параўнання: летась на такі кірмаш прыехала 346 арганізацый (гэта быў самы вялікі кірмаш з тых, што праходзілі ў Мінску).

На VI Міжнародным кірмашы былі прадстаўлены ўсе 10 дзяржаўных выдавецтваў Беларусі, недзяржаўныя выдавецкія і кнігагандлёвыя арганізацыі. Былі на кірмашы супрацоўнікі кніжных магазінаў, бібліятэк, калектараў.

Сярод расійскіх удзельнікаў кірмашу — вядомыя старыя дзяржаўныя выдавецтвы і нядаўна створаныя: "Просвещение", "Панорама", "Янтарный сказ", іншыя, часопіс "Книжный бизнес", газета "Полиграфбизнес". Прыехалі паказаць сваю прадукцыю паліграфісты з Польшчы, Літвы і Германіі.

Выставу "Combit-99" арганізавалі Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку і ЗАТ "Тэхніка і камунікацыі". Да ўдзелу ў выставе былі прыцягнуты найбуйнейшыя айчынныя і сусветныя вытворцы сучаснага паліграфічнага абсталявання, тэхналогій і матэрыялаў для вырабу друкаванай і рэкламнай прадукцыі, праграмных і апаратных сродкаў для ўводу і апрацоўкі адлюстраванняў, абсталявання і матэрыялаў для да- і пасляддрукарнай апрацоўкі.

На кірмашы працавалі калектыўныя стэнды "Кнігі Беларусі", "Кнігі Расіі". Прайшлі прэзентацыі асобных кніг выдавецтваў "Беларусь", "Беларуская Энцыклапедыя", "Мастацкая літаратура", "Беларуская навука", "Універсітэцкае", "Макбел", "Юнацтва", "Вышэйшая школа", "Полымя" і расійскага выдавецтва "Панорама". Падчас выставы "Combit-99" прайшлі семінары-прэзентацыі экспанатаў. Высакаякасныя фарбы, папера і, галоўнае, сучасныя тэхналогіі друку маглі ўразіць кожнага наведвальніка.

Нягледзячы на вядомыя складанасці ў эканоміцы, у Беларусі і Расіі выдаецца шмат кніг. Многія з іх якасныя і па зместу, і па афармленню. Кніжны кірмаш звёў у адной зале тых, хто выдае літаратуру, тых, хто яе друкуе, і тых, хто распаўсюджвае. Паміж імі былі заключаны дагаворы. Значыць, у чытачоў з'явіўся шанс атрымаць новыя кнігі.

**Алена СПАСЮК.**

*Фота Віктара СТАВЕРА.*







## SUMMARY

**The daily newspaper for compatriots living outside Belarus. №9, 1999.**

● How will we live in the 3rd millenium? Pondering over spiritual heritage of the nation by belarusian documentary producer Sergey Halavetsky. ("When you are leaving -.look back" Page 1).

● "Businessmen's club". How to apply for multy-entry business visa including a sample of application for it. (Page 3).

● Idealism and realism of Ivan Stiobut, a well-known agronomist of the 19th century, whose life was tatally devoted to Belarus. (Ales Karlukevich article "How few idealists we have... (Page 2-5).

● Books Collection. (Page 5).

● A man of difficult fate: a poet and a prose writer Zmitro Vitalen. (An interview of Victor Zhybul with the writer. Page 6-7).

● Artists brought together. Opening of international exhibition of graphic artists in the National Art Museum of Belarus. (Page 6-7).

● Feedback: reader's letters. (Page 1,7).

● "Polesye sketches" of Micola Kapylovich. (Page 8).

● The 6th International Book Fair and 5th International Specialized Exhibition of modern technologies in publishing, polygraphy and advertising. (Page 3).


## ВІНШАВАННІ БЕЛАРУСКАМУ ПРАДПРЫМАЛЬНІКУ АД МЭРА МАСКВЫ

Днямі на адрас Уладзіміра Дзялендзіка, генеральнага дырэктара вытворча-камерцыйнай фірмы "Дарыда", якая размешчана пад Мінскам у пасёлку Ждановічы і спецыялізуецца па выпуску якаснай мінеральнай вады "Дарыда" і безалкагольных напояў, прыйшло цёплае пісьмо з маскоўскай мэрыі. Яе кіраўнік Юрый Лужкоў ад імя Маскоўскай міжнароднай бізнес-асацыяцыі (ММБА) і ад сябе асабіста віншаваў Уладзіміра Віктаравіча з перамогай у конкурсе "Лепшы прадпрымальнік Беларусі" ў намінацыі "За садзейнічанне эканамічнай інтэграцыі". Конкурс праводзіцца ММБА.

## У КРАІНЕ МОЦНЫ СНЕГАПАД

Як паведамілі ў Гідраметцэнтры рэспублікі, зараз у Мінску ўсталявалася снежнае покрыва 28 сантыметраў пры месячнай норме 22 сантыметры. Такая ж колькасць снегу выпала ў Вілейскім раёне, а ў Нарачы і Талачыне снегу выпала да 31 сантыметра.

Як зазначыла загадчык аддзела Гідраметцэнтра рэспублікі Вольга Фядотава, вялікія снежныя хмары прыйшлі да нас з цыклонам з Міжземнага мора.

Гэты цыклон удосталь наснежыць на ўсходзе нашай краіны і далей будзе рухацца ў паўночна-заходнім напрамку.

**СПАДЧЫНА**



*У выставачнай зале.*



Гэта першая такая выстава ў Гомелі — толькі ў апошнія гады музеі вобласці сталі збіраць іконы. І цяпер ужо ёсць магчымасць меркаваць аб разнастайнасці іканапісу ў рэгіёне. Значнае месца, безумоўна, займаюць творы веткаўскай школы, вядомыя ва ўсім свеце. На іх адбіваецца ўплыў стараабрадства. На рэчыцкіх жа іконах адчуваецца ўздзеянне заходнееўрапейскага мастацтва: у горадзе некалі распісвалі храмы італьянскія майстры.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**





*Серафім Сароўскі, XIX стагоддзе, пазалота, Ветка.*



*Богамаці Пачаеўская, XIX стагоддзе, Рэчыцкі раён.*



*Ной і сыны, XVIII стагоддзе. Браншчына.*

## “САГА ПРА АДВЕРГНУТЫХ”

Землякі добра ведаюць творчасць Алеся Бажко, рады кожнай сустрэчы з ім. Таму і на гэты раз — у музычнай школе ў Карэлічах і ў Ярэміцкай СШ — пісьменніка сустракалі цёпла, шчыра. Прыемна ўсведамляць, што ў раёне, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, культурнае жыццё не заціхае.

Вялікую зацікаўленасць выклікае твор Алеся Бажко, які ён пісаў амаль сорак гадоў, твор, ужо падрыхтаваны да друку ў выдавецтве “Мастацкая літаратура”, вельмі патрэбны нашаму чытачу — дакументальна-публіцыстычны раман “Сага пра адвергнутых”. Пра гэты твор сам пісьменнік сказаў так: “Сага пра адвергнутых” — гэта гістарычна-палітычныя ўспаміны, па-мастацку асэнсаваныя паданні пра тых, хто загінуў або прапаў без вестак у барацьбе за станаўленне беларускай дзяржаўнасці і нацыянальную годнасць на былых так званых “крэсах усходніх”, ці ў “прыпалячаных” пілсудчыкамі заходнебеларускіх гарадах і вёсках. Многія з іх, гэтых сапраўды народных змагароў, былі яшчэ зусім маладыя, неабстраляныя, але шчыра і непахісна верылі ў правату сваёй нацыянальна-вызваленчай справы, таму і пад варожыя кулі не раз ішлі за яе. У іх ліку былі Сяргей Прытыцкі, Уладзімір Царук, Павел Жалязняковіч, Мікалай Арэхва, Васіль Бурак, Сцяпан Пацяруха, Арсен Балабановіч, Іван Дабрыян, Сымон Нос, Васіль Варэнік, а таксама такія дзеячы культуры, як, напрыклад, Максім Танк, Піліп Пестрак, Мікола Засім, Міхась Васілёк, Міхась Машара, Валянцін Таўлай, Пётр Бітэль, Рыгор Шырма, Міхась Забэйда-Суміцкі, Пётр Конюх, Станіслаў Казура і іншыя. Мая кніга — нізкі паклон ім за гэта”.

**Святлана ШЫЛАК.**

**ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ**

# «ЯК МАЛА Ў НАС

***Не, ніводны слоўнік не здольны выкласці ўсю шматаблічнасць таго ці іншага словавызначэння. Так вось і з ідэалізмам. Тры яго вымярэнні падае “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы”. Пра першае (“Рэакцыйны філасофскі напрамак, процілеглы матэрыялізму, які прызнае дух, ідэю, свядомасць першаснымі, а матэрыю, быццё — другаснымі, вытворнымі”) і гаварыць не хочацца. Ёсць яшчэ і такое: “схільнасць да ідэалізацыі, прыхарошвання рэчаіснасці”. Не, відаць, у нашым выпадку лепей падыходзіць такі варыянт: “...здольнасць, жаданне бескарыслі-***

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

МНЕ здаецца, што расійскі аграном Іван Сцебут, чый лёс ушчыльную пераплецены з Беларуссю, і ёсць надзвычайны ідэаліст. Яго ідэалізм — у служэнні людзям, у жаданні наладзіць грамадскае і гаспадарчае жыццё такім чынам, каб галоўны прыярытэт усіх каштоўнасцей у навакольным асяроддзі аддаваўся Яго Вялікасці Чалавеку. Заўжды вучоны заставаўся рэалістам, а ідэалізм яго — клопат аб шырокай дарозе да лепшага.

Першы беларускі вузельчык Івана Сцебута — паходжанне яго прашчураў. Сям'я здаўна належала да роду праваслаўных літоўскіх дваран. Пасля Люблінскай уніі 1569 года засталіся ў Расіі, за многія гады, за многія пакаленні абруселі. У 1833 годзе, 31 студзеня, у Вялікіх Луках нарадзіўся Іван Сцебут. Чатырнаццатае дзіця ў шматдзетнай сям'і. Праўда, выжыла толькі сямёра (чатыры браты і тры сястры). Калі хлопчыку споўнілася паўтара годзіка, маці — Марыя Фёдараўна — памерла. Бацька — аптэкар. Працу сваю не любіў. А ўвесь час, што адрываў ад аптэкарскіх клопатаў, аддаваў зямельнаму ўчастку каля хаты. І дзяцей прывучаў даглядаць сад, працаваць на зямлі. Вечарамі кожны пры жаданні мог зазірнуць у сельскагаспадарчыя даведнікі, у часопісы, дзе змяшчаліся артыкулы па земляробству, садаводству. Бацька Івана быў аматарам такога чытання, не шкадаваў капейкі на літаратуру падобнага роду.

Атрымаўшы ў спадчыну любоў да зямлі і выдатна скончыўшы за казённы кошт 2-ю Пецярбургскую гімназію, сын аптэкара ў 1850 годзе паступае ў Горы-горацкі сельскагаспадарчы інстытут, утвораны на базе земляробчай школы.

Якімі былі чатыры гады вучобы Івана Сцебута фактычна на роднай яму беларускай зямлі? Адказаць з пэўным зваротам да канкрэтных дэталей на гэтае пытанне не так проста. А мо нават і зусім немагчыма. Лягчэй уявіць тагачасную Беларусь, тагачасны стан земляробчай, сельскагаспадарчай справы ў нашай Айчыне. Адам Кіркор у адным з артыкулаў для унікальнай энцыклапедыі “Живописная Россия” занатаваў: “Спосаб апрацоўкі зямлі, прылады, якія ўжываюцца для гэтага, да сённяшняга часу яшчэ мала чым розняцца ад часін першабытных. Ніякіх новаўвядзенняў у гэтых адносінах не існуе, ды ніхто аб гэтым і не турбаваўся. Палеткі апрацоўваюцца валамі, здараецца і так, што запрагаюць вала і карову, а то і каня з кароваю. Галоўная, самая цяжкая праца ляжыць на мужчынах: яны косяць, аруць, сеюць, малоцяць. Жанчына жне, апрацоўвае агароды. Збіранне сена — справа агульная ўсіх палоў і нават узростаў”. І аб гэтым напісана ў кнізе, выдадзенай у 1882 годзе. Пра Горы-горацкі ж інстытут адным, лічы, толькі радком. Як быццам ніякіх вартых спробаў павесці навуку ў жыццё, у справу гаспадарскую і не было. Ды не, былі... Іншая справа — маштабы зусім не тыя, што час патрабаваў.

Сведчанне таму — і дзейнасць у Горках Аляксандра Саветава. Патрапіў ён на Магілёўшчыну шмат раней за Сцебута. Мажліва, быў і ў цесных кантактах з Іванам Аляксандравічам. Саветаў — з першага выпуска горы-горацкіх (1850 год) аграномаў. У народзе з-за нязвыкласці новага слова іх яшчэ называлі “астраномамі”. Дык вось “зоркі залатаносныя” шукалі яны ў роднай зямельцы. Назіраючы за традыцыйнымі метадамі, спосабамі гаспадарання, Саветаў асцярожна падштурхоўваў да руху наперад. Вось колькі слоў з яго “Кароткага нарыса агранамічнага падарожжа па некаторых губернях чарназёмнай паласы Расіі на працягу лета 1876 года”: “...Разумны кансерватызм не ідзе ўразрэз з рацыянальнасцю. Не ўсё добра з новага толькі таму, што яно новае. Многае старое бывае лепшае за многае новае. Справа рацыянальнага гаспадара з годнасцю ацэньваць патрэбу як новага, так і старога”. Але ж следам Саветаў заўважыў: “І пры слабым народазасяленні, і пры мностве выдатных і пладародных зямель можна вельмі лёгка не толькі не разбагацець, нават збяднець... Буйны гаспадар, заручаны батракамі, яшчэ больш павялічваў свае надзеі на векавыя запасы старажытнарускай зямлі і такім чынам толькі паскараў канчатковае збядненне краіны”.

Усе гэтыя думкі падштурхоўвалі да напружанай працы. І Аляксандра Саветава, і яго малодшага паплечніка Івана Сцебута. Праз шмат гадоў не менш вядомы вучоны А. Фартунатаў напіша пра іх: “Уся руская аграномія апошняй чвэрці XIX стагоддзя можа быць выведзена са сцен Горы-горацкага інстытута і амаль выключна пры пасрэдніцтве А. В. Саветава і І. А. Сцебута”.

Пасля завяршэння вучобы ў 1854 годзе Івана Аляксандравіча пакінулі пры інстытуце. Адміністрацыя выклікала маладога чалавека да сябе:

— Мы даручаем вам пасаду малодшага памочніка ўпраўляючага інстытуцкай фермай.

А ўчарашняму студэнту толькі і мінуўся дваццаць адзін год. Ды Іван не спрабаваў пярэчыць, хаця і адчуваў, што працы наперадзе шмат, да таго ж яшчэ і малазнаёмай. Але пераадольвала жаданне праверыць атрыманыя веды на практыцы.

І пачаліся штодзённыя нялёгкія клопаты. Прачынаўся Іван Аляксандравіч а чацвёртай гадзіне раніцы. Да васьмі — абход палеткаў. У восем, пасля ранішняй гарбаты, Сцебут адпраўляўся ў канцылярыю фермы, дзе заставаўся да дванаццаці дня, а з паловы другой да трох гадзін дня завітваў на ўрокі. Пасля ізноў на полі і па гаспадарцы. Да васьмі вечара. Пасля яшчэ паўтары гадзіны — размеркаванне нарада на наступны дзень. І толькі тады піў вячэрнюю гарбату. Следам садзіўся за напісанне дысертацыі. Часцей засынаў за пісьмовым сталом, каб раніцай ізноў прачнуцца а чацвёртай гадзіне. Такому працоўнаму рытму можна толькі пазайздросціць. Некаму такога знясільвання хапіла б на два-тры гады. Іван Аляксандравіч пражыў 90 гадоў, хварэў на неўрамію, мучыўся цяжкімі прыступамі. І ўсё ж працаваў, займаўся любімай справай.

У 1858 годзе Сцебут адпраўляецца ў замежную камандзіроўку. Спачатку — Германія.



# ІДЭАЛІСТАЎ...»

*ва служыць якой-небудзь справе; прыхільнасць да высокіх маральных ідэалаў"...*

*З кнігі Івана Сцебута "Артыкулы пра рускую сельскую гаспадарку, яе недахопы і меры да яе ўдасканальвання" (Масква, 1883 год): "Я разумею, што ідэалы не ажыццяўляюцца па жаданню чараўнікоў і што да ажыццяўлення пасоўваюцца марудна, улічваючы рэчаіснасць; але думаю, што адсутнасць накіроўваючых дзейнасць чалавека ідэалаў ёсць вялікі недахоп; ці не дужа ўжо як мала ў нас ідэалістаў у гэтым сэнсе..."*

Тады — Бельгія, Францыя. У 1860 годзе Іван Аляксандравіч ужо ў Англіі. Сцебут, вывучаючы замежны сельскагаспадарчы вопыт, уважліва адбірае тое, што можа стаць патрэбным дома.

Вярнуўшыся ў Горкі, Іван Аляксандравіч атрымаў пасаду малодшага прафесара на кафедры земляробства. Вечарамі Сцебут любіў наведвацца да ўпраўляючага гаспадаркай інстытута Б. Міхельсона. Шмат гадзін праседжвалі двое апантаных у сваёй справе руплівцаў за гарбатай. Ведаючы дасканала сялянскія спосабы вядзення гаспадаркі, яны думалі, спрачаліся, як аказаць навуковае ўздзеянне на земляробства, жывёлагадоўлю.

Сцебут пазнаёміўся, пасябраваў з дачкой Міхельсона — Кацярынай. Маладыя людзі пажаніліся. Шлюб атрымаўся шчаслівым. У Сцебутаў хутка нарадзіўся сын — Аляксандр, у будучыні вядомы глебазнаўца. Забягаючы наперад, трэба згадаць, што ў 1918 (яшчэ пры жыцці бацькі) Аляксандр Іванавіч эмігрыраваў у Балгарыю, забраўшы з сабою, магчыма, і большую частку сямейнага архіва. Дык вось у якой староны свету, напэўна, можна шукаць дакументы-сведчанні пра арганізацыю сельскагаспадарчай навукі на Беларусі...

У Горках адбылося і выразнае станаўленне сацыяльна-палітычных поглядаў Івана Сцебута. Вучоны, хаця і жыве ўдалечыні ад сталіцы, уважліва сочыць за літаратурнай дыскусіяй вакол адмены прыгоннага права, а таксама тых шляхоў, па якіх, магчыма, пойдзе далейшае развіццё Расіі. Усё ж Іван Аляксандравіч не вызначаўся выразным радыкалізмам, хаця і яго непакоіў стан дзяржавы, турбавала цяжкае становішча простага люду.

Як на мой погляд, тут варта заўважыць адну выразную дэталь. У пэўнай ступені светапогляд Сцебута, асабліва яго эканамічны бок, пачаў фарміравацца пад уплывам доўгатэрміновай замежнай камандзіроўкі. Прафесар Недакучаеў пазней успамінаў: "Буйныя работы Сцебута па земляробству, якія ў аснове сваёй маюць заходнееўрапейскі вопыт, уяўляюць не пераклады, не простыя кампіляцыі ці пісьменна складзеныя зводкі, — не, кожная з іх прадумана і як бы пераўвасоблена ў свядомасці рускага даследчыка і стала, калі так можна выказацца, рускай па духу, па прызначэнню і па выкарыстанню". Сцебут выдатна разумеў, што рускі народ сфарміраваўся найперш як народ земляробчы, а не гандлёвы. Мо і сёння, праз стагоддзе, не след пра гэта забывацца? Канешне ж, з пазнакай на час...

1863 год... Ён, як і некаторыя месяцы папярэдняга 1862-га, стаў своеасаблівым выпрабаваннем для Івана Сцебута. Малады вучоны здаваў экзамены на ступень майстра пры фізіка-матэматычным факультэце Пецярбургскага універсітэта (аграномія тады ўваходзіла ў агульны цыкл прыродазнаўчых навук — разам з фізікай і матэматыкай). Раптоўна з Горак прыйшло паведамленне: у ваколіцах інстытута запалыхалі вогнішчы. Сярод падпальшчыкаў — студэнты. Па Пецярбургу папаўзлі чуткі: маўляў, гэта помста маладых людзей за тое, што іх бацькоў, як удзельнікаў польскага паўстання, выслалі ў расійскія губерні. А ў 1863 годзе, калі разгарнулася новае паўстанне за нацыянальнае самавызначэнне Беларусі, Літвы, Польшчы, на долю Сцебута выпала сапраўднае выпрабаванне. Услед за арыштамі студэнтаў, удзельнікаў паўстання, па ўсім беларускім краі былі створаны следчыя камісіі.

У горацкую следчую камісію ўключылі і І. Сцебута. Кожнага, лічы, чалавека разглядалі пад мікраскопам: "А ці не мяцежнік жа?" А многія арыштаваныя і з Горак былі ўжо адпраўлены ў Бабруйскую крэпасць. Каля дзвюх тысяч вязняў-паўстанцаў утрымлівалася па тым часе ў казематах крэпасці. Ды і ўжо паціху бабруйчане забываліся, што некалі тоўстыя бастыёны баранілі ад варожай навалы ў 1812 годзе. А паўсюдна, у памяшканнях, схаваных ад сонечнага дзённага святла напоўніцу, тлуміліся людзі, закаваны былі гонар і годнасць Беларусі.

Дык вось у крэпасці, а па праўдзе дык у катаржнай турме, Івану Аляксандравічу давялося апытаць недзе каля 150 чалавек. Але ж аб усім — лепей словамі самога вучонага: "Акрамя фізічнай працы, зразумела, гэта каштавала мне вялікіх маральных мучэнняў, асабліва калі чыноўнік з Пецярбурга Полаўцаў, жадаючы найхутчэй пакончыць са справай, уздумаў скласці абвінаваўчы акт супраць маіх былых саслужыўцаў, не маючы на тое ніякіх даных. Я адмовіўся падпісаць гэтае абвінаваўчае заключэнне і застаўся пры асобым меркаванні, іншыя ж члены камісіі ўсё падпісалі. Я ж сказаў, што лепей не завяршаць следства ніякімі абвінаваўчымі высновамі, для каторых няма падстаў, тым болей, што закон забараняе следчым камісіям рабіць нейкія высновы. Гэта справа суда, а не следства".

Як вынік — камісію закрылі. А калі ў хуткім часе яе аднавілі, то ў новым складзе камісіі Сцебута ўжо не было. Канешне ж, невялікі подзвіг на рахунку вучонага-аграрніка. Ды важна і тое, што не згубіў чалавек пачуццё ўласнай годнасці.

Горы-горацкі інстытут, як вядома, пасля паўстання быў закрыты. А на базе вядомай навучальнай установы стварылі Пецярбургскі земляробчы інстытут. У паўночную сталіцу перасяліўся і Сцебут. Пасля Пецярбурга — праца ў Пятроўскай земляробчай і лясной акадэміі ў Маскве, кіпучая, энергічная навуковая і практычная дзейнасць. За доўгія дзесяцігоддзі свайго жыцця (а памёр Іван Аляксандравіч у 1923 годзе) напісаў шмат прац. Вучоны падрыхтаваў і выдаў (разам з Чарнапятавым, Людагоўскім, Фадзеевым) унікальны даведнік — "Настольную кнігу для рускіх сельскіх гаспадароў". Чаянаў назваў яе "сапраўднай энцыклапедыяй сельскагаспадарчых ведаў". Чытаць яе з карысцю можна і сучаснаму фермеру.

А завяршаючы расповед пра Івана Сцебута, след, відаць, згадаць вось якія яго словы: "Жадаеце падтрымаць маральнасць у народзе — падтрымайце сям'ю; жадаеце захаваць у цэласнасці і здароўі сям'ю — падтрымайце вёску і сельскую гаспадарку..."

**КНІГАЗБОР**




*Віленскім выдавецтвам Таварыства беларускай культуры "Рунь" выдадзена кніга ўспамінаў вучонага-этнографа, беларускага грамадскага дзеяча Марыяна Пецюкевіча "У пошуках зачараваных скарбаў". Гэтая першая з серыі запланаваных выдавецтвам кніга — яшчэ адна старонка ў выпакутаванай ранейшымі пакаленнямі гісторыі, споведзь чалавека за сябе і сваіх незваротных сяброў.*

**Ірына ТАМІЛЬЧЫК**, *супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны.*

ЗАЎСЁДЫ прыемна адкрываць для сябе нешта новае, але ўсведамляць, што вяртаецца ў памяць людскую забытае, а часам невядомае імя, — прыемна ўдвая. Марыян Пецюкевіч — асоба настолькі невядомая, што нават Уладзімір Караткевіч, вядомы "анамаст" (прыгадаем верш "Бог важдаецца з беларускімі прозвішчамі"), не паверыў Адаму Мальдзісу, што ёсць беларускі дзеяч з такім прозвішчам. Лічыў, пэўна, што яно прыдуманае, кіруючыся, відаць, развaжаннямі: "Быў там нейкі Ванька — стаў Ваньковіч, // Быў там нейкі Міцька — стаў Міцкевіч". А "Пецюкевіч" — той ад каго?

Аўтар кнігі шчыра дзеліцца сваімі ўспамінамі, якія ён сам называе сціплымі "шматкамі даўно перажытага, бачанага, чутага й аналізаванага" і лічыць іх вельмі суб'ектыўнымі. Але для сённяшняга чытача гэтая "жменька" інфармацыі аб гісторыі жыцця віленчука і ягонай Бацькаўшчыны пачатку XX стагоддзя выклікае безумоўную цікавасць, бо ў дадатак да іншых гістарычных крыніц тут далучаецца жывы голас 20-х—30-х гадоў, — нават цэлы хор галасоў, бо са старонак кнігі паўстае галерэя людзей, што стваралі гісторыю Віленшчыны, дзе "спляліся культуры нашых народаў, як карані літоўскіх і беларускіх дрэў на мяжы, [...] як плынь беларускіх і літоўскіх рэк".

У прадмове да кнігі, напісанай Лявонам Луцкевічам, які нядаўна адышоў ад нас, гаворыцца, што імёны заслужаных віленчукоў 20-х—30-х гадоў пераважна звязаны з такімі ўстановамі, як Віленская беларуская гімназія, Віленскі універсітэт, Беларускі музей імя І. Луцкевіча. Гэтая кніга — шчыры, кранальны аповед пра тое, як нялёгка было вясковаму хлапчуку-беларусу, выхадцу з беднай даваеннай вёскі, трапіць туды, каб здабыць "зачараваныя скарбы" — сярэднюю і вышэйшую адукацыю, пра выпрабаванне турмамі і катаргай, пра нястомнае імкненне быць карысным Радзіме.

"Мала я ў жыцьці сваім бачыў сонца, затое шмат было на маім шляху вострых церняў і шчэбеня", — спавядаецца М. Пецюкевіч. І шлях да набыцця "скарбаў" быў вельмі цяжкі і пакручасты, як і ў большасці людзей таго пакалення. Па назвах частак кнігі можна вызначыць этапы гэтага шляху: "Першыя крокі й выпрабаваньні на шляху веды й асьветы", "Жменька ўспамінаў зь Віленскай Беларускай Гімназіі", "Служба ў польскім войску й вучоба ў Віленскім Універсытэце", "Пачатак 2-ой Сусьветнай вайны", "Гады савецка-нямецкай вайны й першы арышт". Перад намі — аўтабіяграфічная кніга, усе часткі якой, апрача апошняй, апублікаваны паводле рукапісу, перададзенага дачкой Марыяна Пецюкевіча Марыяй, якая жыве цяпер у Рыме. Апошняя частка — "Сыбірская ссылка й Варкуцінская катарга" — гэта фрагменты з лістоў М. Пецюкевіча.

Пра мары аб асвеце, пра першыя крокі да навукі ідзе гаворка ў першай частцы кнігі. Сярод цёмнага, непісьменнага беларускага сялянства марылі аб выхадзе ў "шырокі сьвет веды" тады адзінкі, а для здзяйснення мараў патрабавалася цярплівасць, адвага, упартасць, падтрымка блізкіх людзей (і маральная, і матэрыяльная). Да такіх належалі бацькі Марыяна Пецюкевіча, якія мелі шасцёра дзяцей. Дзякуючы падтрымцы сям'і, хлопчык пачаў уздымацца па лесвіцы жыцця, што вяла да "зачараваных скарбаў": хатняя "цётчына акадэмія", вясковыя пачатковыя школы з рознымі мовамі навучання, няспынная самаадукацыя і, нарэшце, вучоба ў Віленскай беларускай гімназіі — "кузьні", дзе "выхоўваліся й гартаваліся сапраўдныя патрыёты сваёй Бацькаўшчыны".

Пра гады навучання ў гімназіі расказваецца ў другой частцы кнігі, ці не самай вялікай. Гімназічныя гады для "палахлівага, неадважнага, закамплексаванага юнака" сталі пераломнымі, бо менавіта тады ён пачаў усведамляць сябе сапраўдным беларусам, патрыётам Бацькаўшчыны. Будучы вучнем гімназіі, юнак распачаў асветніцкую дзейнасць у вясковым асяроддзі: пашыраў друкаванае беларускае слова, творы беларускіх пісьменнікаў. Па яго ініцыятыве былі "саматужна" створаны бібліятэкі ў вёсках. Адным словам, "вялася чыстая беларуская работа, патрэбная нашаму беларускаму народу".

З вялікай павагай і любоўю расказвае М. Пецюкевіч аб сваіх настаўніках, якія "ўсю душу й сэрца, увесь свой пэдагагічны й выхаваўчы талент пасьвяцілі беларускай моладзі. Яны давалі веру й прышчэпвалі маладым душам любоў і павагу да свайго народу". Шмат цёплых слоў адрасавана А. Станкевічу, Б. Тарашкевічу, Я. Семашкевічу, М. Гарэцкаму, А. Луцкевічу. "Асабліва запаланіў мяне М. Гарэцкі, — расказвае аўтар пра тагачаснага выкладчыка роднай мовы. — Ён хіба першы зацерушыў у маю душу, у маё сэрца іскру любові да роднай мовы, да нашай нацыянальнай культуры, да Беларусі. З гэтай іскры ўзьнік "Зьніч", які будзе гарэць да канца майго жыцьця". І далей пра Антона Луцкевіча: "Ён умеў ... распаліць у маладых сэрцах пажар гарачай любові да роднага краю, да свайго народу, да ягонай культуры".

У наступнай частцы кнігі расказваецца пра жыццё студэнтаў Віленскага універсітэта, куды на гуманітарны факультэт М. Пецюкевіч паступіў у 1929 годзе. Студэнты актыўна разгортвалі грамадска-палітычную і культурную дзейнасць — у Беларускім інстытуце гаспадаркі і культуры, Беларускім студэнцкім саюзе, Беларускім касцельным хоры. Акрамя таго аўтар быў членам Беларускага навуковага таварыства, рэдактарам маладзёжнага часопіса "Шлях моладзі" (1930—1935), супрацоўнічаў з Беларускім музеем і рэдакцыяй газеты "Беларуская крыніца", а з прыходам савецкай улады, у 1939 годзе, стаў першым рэдактарам беларускіх перадач на Віленскім радыё, выконваў абавязкі дырэктара дзяржаўнай бібліятэкі імя Урублеўскіх (цяпер Цэнтральная бібліятэка Акадэміі навук Літвы), актыўна ўдзельнічаў у рабоце Прафсаюза працаўнікоў культуры Вільні. І толькі аднойчы ў аўтара кнігі вырвалася шкадаванне, што не памянулі яго добрым словам тыя, каму ён, часам рызыкуючы сам, дапамагаў. Справа ў тым, што, працуючы ў бібліятэцы, М. Пецюкевіч меў доступ да спецфондаў, дапамагаў беларускім дзеячам знаёміцца з забароненымі ў Польшчы выданнямі з БССР, нелегальна "падкормліваў" савецкай літаратурай Максіма Танка, Міхася Машару, Франука Грышкевіча... "На жаль, ніводзін з гэтых маіх "гадаванцаў" афіцыйна ў сваёй творчасьці і ўспамінах не згадалі пра маё рызыкаваньне...", — піша ён. Што ж, такая ўжо наша гісторыя...

"Усё ў маёй біяграфіі запісана. А бяссонныя ночы? А боль?" — пісаў у сваіх дзённіках П. Панчанка. І шчымлівы боль, і цяжар пакутных начэй — у наступных частках кнігі. Арышты, здзекі, турмы, катарга, новыя выпрабаванні для сям'і М. Пецюкевіча, для многіх людзей 30-х—40-х гадоў... І ўзнікае толькі бязвыхаднае "За што?!" З ironіяй аўтар адказвае: "За тое, "што жадаў незалежнай Беларусі і, як умеў і колькі мог, працаваў дзеля Бацькаўшчыны..." Але Марыян Пецюкевіч "ня толькі не адступіўся ад сваіх высокіх ідэалаў, а й захаваў у найцяжэйшых варунках турмаў, ссылкі, катаргі моц духу, маральную чысціню, нават пачуцьцё здаровага гумару ў поглядзе на сьвет і на людзей", — напісаў у пасляслоўі да кнігі рэдактар яе Алег Мінкін. Нават у Варкуцінскім лагеры М. Пецюкевіч знаёміў сваіх сяброў-аднадумцаў з гісторыяй беларускага народа, з мовай, літаратурай, нашай нацыянальнай і народнай культурай, "усьведамляў іх нацыянальна й загартоўваў у патрыятычным духу".

Сваім "зачараваным скарбам" М. Пецюкевіч застаўся верны да канца жыцця. Да 1970 года ён працаваў у Этнаграфічным музеі ў Торуні, дзе шмат часу аддаваў вывучэнню народнай культуры беларускага насельніцтва Беласточчыны, збіраў матэрыялы па яго этнаграфіі і фальклору, сустракаўся з беларускімі дзеячамі Польшчы і замежжа. Ён аўтар шматлікіх артыкулаў. У рукапісах засталіся яго мастацкія празаічныя творы, манаграфія пра родную вёску Цяцеркі.

Кніга "У пошуках зачараваных скарбаў" напісана жывой, гутарковай мовай. Захаваны стылістычныя і моўныя асаблівасці рукапісу. На першы погляд здаецца, што занадта многа фрагментаў напісана на польскай і рускай мовах. Але ж, падумалася, гэта дало аўтару магчымасць перадаць жывую атмасферу, "аўру" тых складаных палітычных і сацыяльных працэсаў, што адбываліся ў першай палове XX стагоддзя на памежжы нашай і суседніх краін. У кнізе змешчана шмат фотаздымкаў з сямейнага архіва. У канцы ж кнігі апублікаваны змястоўны артыкул Марыі Пецюкевіч пра Яніну Каханоўскую — "бабку" славутага спевака Данчыка (Багдана Андрусішына).

У апошнія гады свайго жыцця М. Пецюкевіч неаднойчы выказваў жаданне быць пахаваным "дзесьці непадалёк ад Беларусі" — каб на яго магілу прылятаў салоўкі з родных лясоў. Магіла яго — у Польшчы, у Торуні, але, дзе б ні паміралі беларусы, родная зямля павінна памятаць тых, хто маліўся за яе, хто аддаваў ёй "свае найлепшыя думкі й памкненьні". Выданне гэтай кнігі — і ёсць памяць.

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

## АД РЭДАКЦЫІ

*Работа над даведнікам "Беларускае замежжа" была распачата ў Цэнтры імя Ф. Скарыны ў 1993 годзе ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай "Беларусы ў свеце". Да 1997 года яна вялася на грамадскіх пачатках. З 1997-га кіраўніцтва і фінансаванне работы ажыццяўлялася Дзяржаўным камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Тады ж было вырашана падзяліць даведнік на дзве часткі: памежныя краіны (уключаючы новыя дзяржавы, якія ўтварыліся на тэрыторыі былога Савецкага Саюза) і далёкае замежжа. Такі падзел быў абумоўлены спецыфікай матэрыялу: у памежных краінах (тэрмін "блізкае замежжа" быў тут адкінуты як навукова недакладны) беларусы з'яўляюцца пераважна карэнным (аўтахтонным) насельніцтвам або перасяленцамі, у далёкім замежжы — пераважна эмігрантамі (эканамічнымі, палітычнымі).*

*У кожнай частцы матэрыялы згрупаваны па чатырох раздзелах: агульныя артыкулы; арганізацыі, установы і падзеі; перыядычныя выданні і зборнікі; персаналіі. Унутры раздзелаў артыкулы размешчаны ў алфавітным парадку. У раздзел "Персаналіі" ўключаны як дзеячы беларускай дыяспары, так і ўраджэнцы Беларусі — не толькі беларусы, але і рускія, палякі, яўрэі, літоўцы, татары. Выбар ажыццяўляўся зыходзячы як са значнасці асобы, яе дзейнасці, так і наяўнасці матэрыялу. Прытым у дачыненні да асоб, якія не засведчылі сваю беларускасць (належнасцю да арганізацый дыяспары, творчасцю на беларускай мове і г. д.), пад увагу бралася толькі тэрыторыя сучаснай Беларусі (г. зн. не ўключаны ўраджэнцы Беласточчыны, Віленшчыны, Латгаліі, Пскоўшчыны, Смаленшчыны, якія да рэвалюцыі ўваходзілі ў Гродзенскую, Віленскую, Віцебскую і Магілёўскую губерні). З другога боку, Віленшчына да 1939 года не разглядаецца як тэрыторыя памежнай краіны, бо яна арганічна была звязана з заходняй часткай Беларусі. Не ўключаны ў даведнік агульнавядомыя ўраджэнцы Беларусі, дзейнасць і творчасць якіх належаць пераважна Польшчы (Т. Касцюшка, С. Манюшка, А. Міцкевіч, Ю. Нямцэвіч і інш.).*

*У храналагічным плане ўвага ў даведніку засяроджана на беларускай дыяспары XX стагоддзя. Але ў агульныя артыкулы і ў раздзел "Персаналіі" ўключаны таксама матэрыялы XI—XIX стагоддзяў.*

# БЕЛАРУСЫ Ў РАСІІ

## (РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ)

**Ранняя міграцыя.** Перасяленні ў сярэднія вякі з беларускіх княстваў (Полацкага, Тураўскага і інш.) на землі паўночнай і паўночна-ўсходняй Русі цяжка прасачыць. Але можна меркаваць, што рознабаковыя сувязі з Наўгародскай, Уладзіміра-Суздальскай і іншымі землямі спрыялі міграцыі сюды жыхароў беларускіх зямель. Ранняя міграцыя вызначалася і дынастычнымі шлюбамі. Умацаванню палітычных сувязей зямель садзейнічалі шлюб сына Юрыя Далгарукага Усевалада з дачкой віцебскага князя Усяслава ў 1175 годзе, шлюб князя ўладзіміра-суздальскага Аляксандра (Неўскага) з дачкой полацкага князя Брачыслава ў 1238 годзе. У бітве са шведскімі рыцарамі на Няве (1240) мужна змагаўся палачанін Якаў, які знаходзіўся на службе пры двары Аляксандра Яраслававіча.

**Міграцыя з беларускіх зямель ВКЛ у Маскоўскую дзяржаву.** Насельніцтва этнічных беларускіх зямель Вялікага княства Літоўскага перасялялася ў гарады і княствы паўночнай і паўночна-ўсходняй Русі, а затым — у Маскоўскую дзяржаву па эканамічных, палітычных, рэлігійных і іншых прычынах, масава выводзілася ў палон у ходзе войнаў. Найперш сюды выязджалі пакрыўджаныя ці незадаволеныя палітыкай вялікіх князей прадстаўнікі пануючага саслоўя са сваімі войскамі і сялянамі, а таксама тыя, хто пацярпеў паражэнне ў дынастычнай барацьбе за ўладу. У 1265 годзе ў Пскоў з дружынай уцёк удзельнік змовы супраць Міндоўга князь Доўманг, які ўзначаліў барацьбу пскавіцян і наўгародцаў супраць нямецкага ордэна. Князь тураўскі і пінскі Нарымунт Гедымінавіч у 1333 годзе атрымаў Ладагу і Арэшак "в кормление", а карэльскую зямлю "в отчину и дедину". Полацкі князь Андрэй, які адмовіўся прысягаць вялікаму князю ВКЛ Ягайлу, выехаў у Маскоўскае княства, дзе ўзначаліў "войско великое" з полацкіх і пскоўскіх воінаў і дапамог маскоўскаму князю Дзмітрыю выйграць Кулікоўскую бітву. Пад кіраўніцтвам мсціслаўскага князя Сямёна Лунгвена (у 1389—1407 гадах — намеснік у Ноўгарадзе) былі разбіты шведскія войскі на Няве (1392). У Маскоўскае княства перасяліўся ў 1408 годзе сапернік вялікага князя ВКЛ Вітаўта северскі князь Свідрыгайла, многія баяры. У XIV—XV стагоддзях шматлікія дынастычныя шлюбы пэўным чынам уплывалі на прамаскоўскую палітычную арыентацыю часткі праваслаўнай знаці ВКЛ. Пашырэнню міграцыі на ўсход спрыяла атрыманае паводле прывілею 1447 года права князёў, рыцараў, шляхты і баяр пакідаць ВКЛ. Права ж усіх свабодных людзей на выезд за мяжу прадугледжвалі Статуты ВКЛ 1566 і 1588 гадоў (за выключэннем "непрыяцельскіх краін").

(Працяг будзе).

# МАСТАКІ ЗНАХОДЗЯЦЬ АГУЛЬНУЮ МОВУ



*Таццяна РАДЗІВІЛКА. "Ню". Літаграфія, цісненне.*

У сярэдзіне лютага ў Мінску ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь ўрачыста, з удзелам грамадскасці і кіраўнікоў дыпламатычных місій, акрэдытаваных у нашай краіне, адкрылася інтэрнацыянальная выстава мастакоў-графікаў Таццяны Радзівілка і Канстанціна Селіхава (Беларусь), Кенета Альфрэда (Францыя) і Аліўе Косака (Германія). Асаблівасцю вернісажу стала тое, што напярэдадні яго ўдзельнікі на працягу амаль двух тыдняў разам працавалі ў майстэрні мінскага майстра-друкара Дзмітрыя Малаткова, вядомага аматарам мастацтва не толькі Беларусі, але і за яе межамі. Арганізатарамі такога своеасаблівага "майстар-класа" выступілі Міністэрсва культуры, Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь, Інстытут Гётэ і Аддзел Культуры пасольства Францыі.

Дарэчы, усе мастакі, што бралі ўдзел у гэтай міжнароднай акцыі, — далёка не пачаткоўцы, наадварот, майстры са сталай вядомасцю і аўтарытэтам. Іх работы экспануюцца ў многіх еўрапейскіх краінах.

Аліўе Косак у Мінск прыехаў з калегам, з якім разам выкладае ў лейпцыгскай Вышэйшай школе мастацтваў, таксама літографам-друкаром, Міхаэлем Вайснерам. На прэс-канферэнцыі, прымеркаванай да адкрыцця выставы, спадар Вайснер высока ацаніў работу беларускіх мастакоў і, у прыватнасці, майстэрства Дзмітрыя Малаткова. Ён прызнаў, што мастацкія вартасці твораў аднаго са старэйшых прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай школы графікі маюць сапраўдны еўрапейскі ўзровень.

Падчас адкрыцця выставы з прывітальнымі словамі выступілі паслы Францыі і Германіі, якія павіншавалі мастакоў і адзначылі каштоўнасць і эфектыўнасць падобных сумесных культурных мерапрыемстваў, прызваных умацоўваць сувязі Беларусі з іншымі краінамі све-

# Змітро ВІТАЛІН: «НІКОЛІ НЕ ЗБОЧВАЦЬ СА СВАЙГО

*Паэт і празаік Змітро Віталін (Дзмітрый Сергіевіч) — чалавек складанага лёсу. За плячыма — рэпрэсіі, вайна, багаты на розныя падзеі шлях ваеннага журналіста. Беларус, ураджэнец Брэстчыны, у 1952 годзе ён пасяліўся ў Адэсе, дзе жыве і зараз. Ягоныя кнігі — пераважна на ваенную тэматыку — выходзілі ў выдавецтвах Адэсы, Кіева, Масквы пад уласным прозвішчам аўтара. Тут жа, на Беларусі, у 1930-я гады, калі пісьменнік быў сябрам "Маладняка", а затым — Цэнтральнай студыі пры БелАППе, яго ведалі як паэта менавіта пад псеўданімам Змітро Віталін. Тады ж яго і арыштавалі...*

*Доўгі час ён быў вымушаны хаваць ад усіх сваё мінулае. Таму на працягу амаль шасцідзесяці гадоў мала хто ведаў, што адэскі празаік і беларускі паэт — адна і тая ж асоба. Толькі некалькі гадоў таму творы Змітра Віталіна зноў пачалі друкавацца ў беларускіх выданнях.*

*Нядаўна мне давялося пабываць у Адэсе і наведаць пісьменніка. Дзмітрый Рыгоравіч і яго жонка Мальвіна Мартынаўна сустрэлі цёпла і гасцінна: нават і не чакалі, што да іх прыедзе нехта з роднай Беларусі. І атрымалася вось такая гутарка.*

**— Дзмітрый Рыгоравіч, прыгадайце, як вы пачыналі свой творчы шлях?**

— Гэта ўжо даўнія часы. Першае маё апавяданне (на расійскай мове) было надрукавана недзе ў 1925 ці ў 1926 годзе ў піянерскай газеце "Искры Ильича", якая выдавалася ў Гомелі. Ну якое там апавяданне? Проста замалёвачка, а яе паднялі да ўзроўню апавядання. Для мяне гэта была вялікая радасць. Ну а пачаў пісаць па-беларуску, калі апынуўся ў Мінску, стаў пахаджваць у Дом пісьменніка. У газеце "Чырвоная змена" надрукаваў свае першыя вершы. Далей — болей. У "Маладняку" друкаваўся, у "Полымі" і нават ва "Узвышшы" адзін верш змясціў.

**— А хто ў тыя гады зрабіў на вас уплыў?**

— Перш за ўсё — класікі літаратуры: Якуб Колас, Янка Купала, Цішка Гартны... Вельмі я любіў чытаць гэтых паэтаў. Яны наша гордасць. Акрамя таго, у падручніку для сярэдніх школ рэспублікі змяшчаліся выпісы з беларускай літаратуры, і там былі паэты: Багушэвіч, Цётка, Алесь Гурло... Усе яны разам нейкім чынам на мяне паўплывалі.

**— Каго з тагачасных беларускіх паэтаў вы ведалі асабіста? З кім найбольш сябравалі?**

— Мае першыя таварышы — Павел Пруднікаў, ягоны брат Алесь Пруднікаў, а таксама таленавіты беларускі паэт Клім Грыневіч. Гэта была такая наша група. Мы не тое, што адасобіліся, а проста сустракаліся часцей, чым з іншымі. І першыя кніжкі ў нас выйшлі амаль адначасова. Сябраваў і з Рыгорам Хацкевічам — добры, на мой погляд, паэт. Ведаў я Петруся Броўку: пасля вайны сустракаўся з ім тут, у Адэсе. Ён прыязджаў сюды са сваёю хваробаю вачэй у Інстытут імя Філатава. Я яго вадзіў па ўсёй Адэсе. Добрыя ўспаміны засталіся.

**— Дзмітрый Рыгоравіч, а чаму ў маладосці вы ўзялі сабе менавіта такі псеўданім — Змітро Віталін?**

— Была тады такая думка: "Vita" — па-латыні значыць "жыццё". "Жыццёвы", так бы мовіць.

**— Ваша першая кніга таксама мела адпаведную аптымістычную, жыццясцвярджальную назву — "Будзем жыць!"**

— Так. І, мне здаецца, самая найлепшая назва, якая ёсць. Для мяне была вялікая радасць, калі тады, у 1932, выйшла гэтая кніжка. Толькі ў Мінску з'явілася магчымасць выдацца. Вось і выдалі мяне, нікому незнаёмага. Зразумела, што старога жыцця я не ведаў: маладым быў — пра маладое пісаў...

**— А пра што? Якія настроі тады ўвогуле панавалі ў літаратуры?**

— Ды пра ўсё пісаў. Былі і вершы, прысвечаныя тагачаснаму сацыялістычнаму будаўніцтву. У юнацтве шмат хто з нас пра гэта пісаў, асабліва Андрэй Александровіч. Ён быў першы паэт нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Потым з'явіўся Пятрусь Броўка... Сам я тады толькі пачынаў, пісаў яшчэ не вельмі шмат.

**— Дзмітрый Рыгоравіч, наколькі мне вядома, вы не пазбеглі і крывавых сталінскіх рэпрэсій: вясною 1933-га вас арыштавалі, а потым, увосень, адправілі ў высылку ў Сібір. Якое канкрэтна абвінавачванне вам прад'явілі?**

— Была такая справа. Але мне, шчыра кажучы, не хацелася б пра гэта нічога казаць, бо выслалі мяне, па сутнасці, без усялякага абвінавачвання. Дый наогул горка, балюча ўспамінаць пра ўсе гэтыя жудасці, хаця ёсць пра што. Але я не ведаю, каму гэта зараз будзе патрэбна... Бацьку майго таксама рэпрэсіравалі. І нічога мы пра яго не чулі: недзе загінуў, відаць. Няхай яны будуць праклятыя гэтыя трыццатыя гады! Гэта я буду казаць яшчэ і яшчэ!

**— А ці не маглі б вы падрабязней распавесці пра ваш жыццёвы шлях?**

— Я ж, ведаеце, — ваенны журналіст. Да вайны працаваў у акруговай газеце "Бальшавік Палесся" ў Мазыры. Але пайшоў на вайну радавым пехацінцам, не журналістам. А потым на Волхаўскім фронце мяне ўзялі ў газету. І з тае пары — пайшло і пайшло. Так і скончыў вайну ў Чэхаславакіі — ваенным журналістам.

Мне давялося аб'ездзіць ці не ўсю Цэнтральную Еўропу: Аўстрыю, Венгрыю, Чэхаславакію, часткова Польшчу.

А вайну ўспамінаць — доўгі аповед. Ужо мы хлебанулі дык хлебанулі гора! Беларусам больш за ўсіх дасталася. Маю жонку і ўсю яе сям'ю вывезлі ў Нямеччыну — яны там рабамі былі.

**— Большасць з вашых твораў — аўтабіяграфічныя. Вы пішаце толькі пра тое, што самі зведалі?**

— Так. І я лічу, што пісьменнікі наогул усе пішуць пра тое, праз што самі так ці інакш праходзяць. Тое, што мною напісана, — мною і перажыта. Гэта датычыцца перш за ўсё кніг пра вайну.

**— Дзмітрый Рыгоравіч, не так даўно вы адчулі ў сябе своеасаблівае новае нараджэнне і зноў пачалі пісаць вершы на роднай мове, друкаваць іх у беларускіх выданнях. Ці не цяжка было рускаму празаіку Дзмітрыю Сергіевічу стаць зноў беларускім паэтам Змітром Віталіным?**

— Не, не цяжка. Бо, кажучы





*Аліўе КОСАК. "Галава".*

ту і, у першую чаргу, канешне, еўрапейскімі. Усімі выказвалася надзея, што народжаная ініцыятыва сумесных творчых майстэрань будзе развівацца надалей і да яе далучацца новыя ўдзельнікі.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**



*Канстанцін СЕЛІХАНАЎ. "Запіс". Шаўкаграфія.*

# ШЛЯХУ»

па сакрэту, я і не пераставаў пісаць па-беларуску, вершы перш за ўсё. Друкавацца, зразумела, нідзе не мог, бо пасля вайны ўвесь час жыў на Украіне. На Беларусі я пакінуў сваіх родных: маці, сясцёр, брата... Зараз там ужо мала хто з іх у жывых застаўся. Пляменнікаў многа — яны ў Калінкавічах жывуць.

Доўгі час я перапісваўся з Паўлам Пруднікавым. Некалькі гадоў таму ён падарыў мне сваю кніжку "За калючым дротам".

**— Дзмітрый Рыгоравіч, а над чым вы працуеце апошнія гады?**

— Пішу і вершы, і прозу. І трэба сказаць, толькі на роднай мове. У Мінску, у выдавецтве "Мастацкая літаратура", недзе ляжыць мая кніга "Помста", куды ўвайшлі вершы за розныя гады. І нічога мне не адказалі: ці атрымалі рукапіс, ці не. Гэта мяне дзівіць: ну як жа так можна? Сказалі б не — дык не.

**— Дзмітрый Рыгоравіч, а што б вы, як сталы пісьменнік, хацелі пажадаць маладым літаратарам і моладзі ўвогуле?**

— Я жадаю маладым пісьменнікам ніколі на збочваць са свайго шляху і, як бы ні было цяжка, крочыць сваёю дарогаю, бо ўсякія збочванні аднімаюць шмат сілы. Калі ёсць штосьці ад Бога, дык трэба берагчы гэта як самае дарагое.

**Віктар ЖЫБУЛЬ.**

Адэса—Мінск.

## АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

* * *

**Паважаныя калегі!**

**Вельмі ўдзячная вам за рэгулярнае атрыманне газеты "Голас Радзімы". Спадзяюся атрымліваць яе і надалей.**

**З пажаданнямі ўсяго самага добрага**

**Ларыса ШЧАВІНСКАЯ, кандыдат філалагічных навук.**

Расія. Масква.

* * *

**Шматпаважаныя сябры! Ад душы жадаю здароўя, шчасця, усяго добрага ў жыцці і новых дасягненняў у выданні так вельмі патрэбнага "Голасу Радзімы" як для суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны, так і для ўсіх, хто выказвае зацікаўленасць Беларуссю, яе гісторыяй, этнаграфіяй, культурай, а таксама сучасным палітычным, эканамічным і грамадскім жыццём краіны.**

**Я асабіста вельмі ўдзячны, што рэгулярна атрымліваю "Голас Радзімы", часта выкарыстоўваю ваш штотыднёвік у сваёй навуковай працы, а таксама педагагічнай і грамадскай дзейнасці. Вашы публікацыі задавальняюць маю цікавасць. Калі можна, хацеў бы, каб больш было звестак пра сучаснае эканамічнае, палітычнае і грамадскае жыццё Беларусі. З гэтай менавіта думкай дасылаю вам мае найлепшыя прывітанні і вялікую падзяку.**

**З павагай**

**Базыль БЕЛАКАЗОВІЧ.**

Варшава. Польшча.

* * *

**Шаноўная рэдакцыя! "Голас Радзімы" мы заўжды атрымліваем і вельмі ўдзячныя вам. Газета для нас вельмі цікавая і неабходная. Толькі пры дапамозе "Голасу Радзімы" мы можам даведацца пра культурныя падзеі ў Беларусі, інфармаваць пра іх нашых суайчыннікаў і, нягледзячы на складаныя палітычныя абставіны, не дазволіць меншыць нашы шматгадовыя сувязі дружбы. У апошніх нумарах з вялікай цікавасцю чытала артыкул "Подых юні ўходзячай маёй..." Тым больш, што перакладала творы У. Караткевіча і была добра знаёмая з ім.**

**Вялікі, вялікі дзякуй вам.**

**Мірдза АБОЛА.**

Літва.

* * *

**У "Голасе Радзімы" за 28 студзеня 1999 года № 4 (2614) вы змясцілі цікавую для мяне заценку пра мотальскія строі. Апрача памянёных вёсак Тышкавічы і Асаўніца вы прапусцілі вёскі Заазер'е, Дзедавічы і Панцавічы, якія шчыльна прымыкаюць да мястэчка Моталь і ўваходзяць у традыцыйны склад мотальскіх строяў.**

**Таксама вы змясцілі здымак мотальскіх строяў, якія ўпершыню я напаткаў. Здымак самабытны. Дзе вы яго ўзялі? Як і дзе можна яго дастаць? Ці можаце мне дапамагчы атрымаць гэты здымак, калі можна, каляровы!**

**Пішу пра мястэчка Моталь і ўжо амаль заканчваю разам са здымкамі 286 старонак. Праз некалькі гадоў маю намер атрымаць працу Марыі Саковіч з Моладава "Крестьяне местечка Мотоль и их песни". Адрас, дзе знаходзіцца гэты рукапіс: "Акадэмія навук Расійскай Федэрацыі, Геаграфічнае таварыства СССР". 190 000, Ленінград, завулак Грыўцова, 10. Тэлефон 215-55-76. Назва інстытута можа быць зменена, але будынкі архіва засталіся на месцы. Ці можаце мне дапамагчы дастаць адбітак гэтага рукапісу на 155 старонак!**

**Ветліва прашу вас не адкладваць з адказам.**

**Няхай Бог дабраславіць вас!**

**Мітрапаліт МІКАЛАЙ.**

*3 лютага 1999 года.*

Таронта. Канада.

АД РЭДАКЦЫІ. Каляровы здымак мотальскіх строяў мы маем і ў хуткім часе вышлем. А адбітак рукапісу, які вас цікавіць, магчыма, дапаможа дастаць хто-небудзь з чытачоў нашай газеты.

* * *

**Дзякуй за дасылку мне газеты "Голас Радзімы". Я заўсёды вельмі цікаўлюся яе зместам, асабліва раздзелам аб літаратуры.**

**З павагай**

**Арнольд МАКМІЛІН, прафесар.**

Лондан,
Вялікабрытанія.

* * *

**Шчырае прывітанне ўсім супрацоўнікам "Голасу Радзімы"!**

**З украінскага горада Александрыі адклікаецца да вас сям'я Трафіменка!**

**Ужо некалькі гадоў мы атрымліваем "Голас Радзімы" і з задавальненнем чытаем вашу, а, хутчэй, нашу агульную газету. На цяперашні час гэта адзіная сувязь з Бацькаўшчынай, якую прыйшлося пакінуць у 86-м пасля аварыі на ЧАЭС.**

**Вялікі дзякуй за вашу працу, за магчымасць чытаць, чым жыве Беларусь, лёс якой вельмі хвалюе, а асабліва за тое, што робіце газету па-беларуску!**

**Калі будзе магчымасць, хацелі б і надалей атрымліваць "Голас Радзімы".**

**На той выпадак, калі вас цікавіць, што б хацелася бачыць на старонках "Голасу Радзімы", то гэта: матэрыялы пра гісторыю і цяперашняе жыццё беларускіх гарадоў, мястэчак, вёсак, невядомыя і малавядомыя факты з жыцця славутых людзей Беларусі, рэлігійнае і культурнае жыццё.**

**З пажаданнем поспехаў і плённай працы**

**сям'я ТРАФІМЕНКА.**

г. Александрыя. Украіна.

* * *

**Шаноўныя сябры!**

**"Голас Радзімы" я атрымліваю ўжо чацвёрты год. Усе яе публікацыі мяне цікавяць. Раней выпісваў часопісы "Маладосць" і "Полымя" і газету "Літаратура і мастацтва", але, на жаль, цяпер таго рабіць не можна, і ваш "Голас..." — для мяне адзінае ваконца ў Беларусь.**

**Маю ў сваёй бібліятэцы каля чатырох тысяч кніг, сярод якіх ёсць некалькі па-беларуску (Алеся Гаруна, напрыклад). Хацеў бы мець тых кніг многа болей ("Старажытная Беларусь", "Вёска Віцькаўшчына", "Я з роду Ліпскіх", кнігі Наталлі Арсенневай, Янкі Запрудніка, падручнік беларускай мовы, слоўнік Карскага...), але цяпер зрабіць гэтага немагчыма.**

**Мае дзяды заехалі ў Сібір з Гомельшчыны (з Буда-Кашалёва) у пачатку стагоддзя, а дзяды маіх дзядоў на Гомельшчыну прыйшлі з Чарнігаўшчыны, дзе жылі ад XVII стагоддзя (Остэр, Саснавец, Нежын). Дварэцкія ёсць у "Маларасійскім радаслоўніку" Мадзалеўскага, а пра роданачальніка Васілія Дварэцкага шмат ёсць у Сяргея Салаўёва ў яго "Гісторыі Расіі з даўніх часоў".**

**Хацеў бы напісаць да У. Ліпскага, пра якога нядаўна ў вашай газеце быў артыкул Алены Ляшкевіч "Я з роду Ліпскіх", бо, як і ён, добра ведаю свой радавод, але не ведаю E-mail Ліпскага, ці ёсць ён у яго! Добра разумею па-польску і па-ўкраінску, маю трох дзяцей і працую псіхіятрам у шпіталі.**

**Ад 1996 года ў мяне ёсць свая старонка ў Інтэрнеце па гісторыі рускай праваслаўнай царквы, на якую вас запрашаю, калі зайшла аб тым размова: http: // www nvkz. kuzbass. net/dworecki.**

**З шчырым паважаннем**

**Уладзімір ДВАРЭЦКІ.**

Расія.

АД РЭДАКЦЫІ. Шаноўны спадар Дварэцкі! Ліст Ваш мы перадалі Уладзіміру Ліпскаму, змяшчаем і яго E-mail: fint@ccfmsg. minsk. by

* * *

**"Голас Радзімы" я атрымліваю некалькі гадоў. Газета вельмі цікавая, патрэбная. Яна не толькі ўзбагачае інфармацыяй, але і выхоўвае пачуцці любові да зямлі Янкі Купалы і Максіма Багдановіча.**

**Асабіста я як журналіст выкарыстоўваю нейкія матэрыялы для мясцовай перыёдыкі. Украінцам цікава ведаць, як жывуць беларусы, якія там навіны.**

**Вялікі дзякуй супрацоўнікам гезеты за работу. Жадаю ім моцнага здароўя, поспехаў, шчасця!**

**Аляксандр АЛЕЙНІК.**

Украіна. Чарнігаў.

**P. S. Хацелі б атрымліваць "Голас Радзімы" і нашы пісьменнікі. Але яны не фінансуюцца. Раней падпісвалі "ЛіМ", а цяпер з Беларусі — нічога...**

* * *

**Паважаная рэдакцыя!**

**Цікава было чытаць артыкул "Прафесар Арынчын вырашае праблемы прэзідэнтаў" у "Голасе Радзімы" № 5.**

**Пажаданым было б, калі магчыма, каб больш падобных артыкулаў аб здароўі публікавалася на старонках гэтай газеты. Мне прыпамінаюцца гады майго дзяцінства, дзе народная медыцына лячыла амаль усе недамаганні, бо большасць людзей не мелі грошай плаціць дактарам.**

**Прыклад: калі быў малым хлопчыкам, якісь чужы сабака мяне напалохаў. Гэты выпадак паўплываў на мяне, не мог спакойна адпачываць, не мог спаць. Помню, мая мама, узяўшы некалькі курыных яек, павяла мяне да старой бабкі, што жыла ў старэнькай хатцы ў канцы вёскі. Бабка ўзяла адно свежае яйка і ім пакруціла на маіх грудзях, шэпчучы малітву. Пасля гэтага сказала, што ўсё будзе добра са мною. Цікава, што ад таго часу я паправіўся.**

**Другі выпадак. Гэта з маёй старэйшай сястрой. Яна пайшла ў лес збіраць ягады. Там змяя ўкусіла яе. Вярнулася дадому з плачам. Нага пачала пухнуць, і пухліна ішла вышэй па назе. Зноў, помню, мама з ёю пайшла да вясковай бабкі. Там бабка над яе нагой пашаптала, дала пэўныя зёлкі, каб з іх зрабіць выпітак. Пухліна перастала расці, і за дзень ці два нага выздаравела.**

**Мяне цікавіць, ці такая народная медыцына на вёсцы надалей практыкуецца, калі так, то было б добра пачуць.**

**З пашанай**

**Сыльвестр БУДКЕВІЧ.**

Англія.

АД РЭДАКЦЫІ. Шаноўны спадар Будкевіч, просьба адносна падпіскі вашай сястры на нашу газету выканана.

* * *

**Паважаны рэдактар!**

**У адказ на ваш зварот "Слова да чытачоў" у № 50 (2608) паведамляю: газету "Голас Радзімы" атрымліваю рэгулярна, за што вам вельмі ўдзячны. Прашу прысылаць і далей.**

**Весткі з Беларусі і артыкулы цікавыя.**

**З пашанай**

**М. ШВЭДЗЮК.**

Англія.

* * *

**Шаноўная рэдакцыя!**

**Просім вас паведаміць суайчыннікам, што 27 сакавіка 1999 года ў Маскве адбудзецца з'езд беларусаў Расіі. Зацікаўленым суполкам звяртацца ў арганізацыйны камітэт па тэл. (095) 487-29-64, (812) 510-60-09.**

**З павагай**

**Аргкамітэт з'езда і МТБК імя Скарыны.**

* * *

**Паважаныя землякі!**

**Вялікае дзякуй за газету. Мы атрымліваем яе ў Мурманскім рэгіянальным таварыстве дружбы з Рэспублікай Беларусь. Зараз у нас будзе і таварыства суайчыннікаў "Радзіма", і другі экземпляр дастанецца яму.**

**Станіслаў ДАШЧЫНСКІ.**

г. Мурманск. Расія.

* * *

**Шаноўная рэдакцыя! Дужа вам дзякуем за газету, якую вы нам пасылаеце, але нам няёмка, што мы не можам на яе падпісацца.**

**Нас вельмі цікавяць падзеі, якія адбываюцца на Радзіме, — палітычнага, эканамічнага плана і крымінагенныя абставіны.**

**Усім беларусам трэба абараняць свой гонар і сваю нацыю.**

**З павагай**

**А. КАЖАРСКІ.**

Львоў. Украіна.

АД РЭДАКЦЫІ. Шаноўны спадар Кажарскі, удзячныя Вам за разуменне.

МІНІ-ЗААПАРК «КАРЛУША»



Леанід ГЯРМАЦКІ на занятках з дзецьмі.



З экзатычнымі пародамі курэй Лена КАЖЭНСКАЯ і Каця КУРАВА.



Жэня РОДЗІКАЎ з паўлінамі.

❄

Больш за 100 відаў розных птушак: чыжы, буслы, фазаны, паўліны — жывуць у міні-заапарку "Карлуша" дзіцяча-юнацкага цэнтра Фрунзенскага раёна Мінска, які нядаўна размясціўся ў мікрараёне Захад-2.

Арганізатара будаўніцтва заапарка, а цяпер яго дырэктара і кіраўніка гуртка "Юны арнітолаг" Леаніда Гярмацкага любіць тутэйшая дзятва. Малыя і школьнікі з захапленнем слухаюць яго цікавыя расказы пра птушак нашых садоў, палёў і лясоў, з задавальненнем дагдядаюць насельнікаў заапарка.

Дзякуючы клопату гурткоўцаў, сёлетнюю халодную зіму пасняхова перанеслі нават цеплалюбівыя паўліны і фазаны.

❄



У адным з вальераў, дзе жывуць ваверкі.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.

ПАЛЕСКІЯ ГІСТОРЫІ МІКОЛЫ КАПЫЛОВІЧА

# ПАРАСЯТКА

Жыве Матруна ў канцы вёскі. Жыве адна. Хатка маленькая, прысадзістая, з замшэлым дахам. І гарбатая, як і сама гаспадыня. Хатку адразу пасля вайны сыны, тады яшчэ хлапчукі, з тонкіх бярвенцаў скінулі.

Сыноў у яе трое. Усе ў горадзе жывуць. Раней, калі маці была пры здароўі, трымала карову, свіней і курэй, наведваліся да маці, а цяпер — не. Так і жыве адна.

Пенсія невялічкая, але Матруна апошні год не распускала свае "зайчыкі", збірала іх, каб купіць на кірмашы парася.

Паехала ў горад і купіла. І нібы адразу паздаравела, не магла ад радасці знайсці сабе месца ні ў хаце, ні ў двары.

Прыбегла суседка Прося зірнуць хоць адным вокам на парасятка.

— Прывезла? — яшчэ з варот пацікавілася яна.

— А як жа! Ужо ў хляве чмыша... Такое маленькае, пацешнае! Ну як малое дзіця. І рахманенькае!

Матруна ўсміхнулася. На маршчыністым сухенькім твары заблішчэлі блакітныя вочкі. І нават яе падраная куртачка, якая засталася ад малодшага сынка, нібы зрабілася навейшай.

— А паглядзець можна? — шэптам, нібы баялася патрывожыць жывую істоту, спытала яна. — Не бойся, не сурочу.

— А я і не баюся. Ведаю, што ў цябе вочы добрыя, — таксама ціха азвалася Матруна.

І яны крадком, на дыбачках, каб не напалохаць парася, пайшлі да хлеўчука, адчынілі варотцы.

Маленькі ружовы вепручок, нібы дзіця, якое толькі што адарвалі ад матчыных грудзей, стаяў на беленькіх капытцах і, убачыўшы ў варотцах святло, радасна піскнуў. Ён паспрабаваў было ступіць насустрач Матруне і Просі, але заблытаўся ў саломе і паваліўся набок.

— Які прыгажунчык! — не магла надзівіцца Прося. Чысценькі, дагледжаны. Ну як лялька! І гладзенькі. І як ты такога выбрала на кірмашы?

— Доўга там тупала, але выбрала, — пахвалілася старая. — Бачу, дзед сядзіць у капелюшы... А каля яго ног ляжыць і варушыцца, нібы жывы, мех. "Мо парасятка прадаеце?" — пытаюся. "Усё ўжо прадаў, — адказвае. — Толькі адно засталося". І разгарнуў мяшок. Зірнула я на парасятка, пацанавалася — дорага просіць. Дай, думаю, яшчэ па кірмашы паблукаю, можа таннейшага парсючка надыбаю. І, верыш, толькі ступіла крок ад таго дзеда — парсючок як завішчыць, хоць вушы затыкай. Гэта ён так плакаў, мяне да сябе клікаў... Спынілася, яшчэ раз на свінчо паглядзела: і ножкі поўныя, і вушкі тырчком стаяць, і галоўнае — хвосцік кручочкам. Ну, думаю, гэта мой. І не пацанавалася ўжо з дзедам. Купіла...

— Пашанцавала табе, Моця. Добранькае купіла парася, — пахваліла суседку Прося. — А есці просіць?

— Яшчэ як! Верашчыць з раніцы. Я яго пойлам цёпленькім адпойваю. Мучным з соскі. — Яна выняла з кішэні і паказала суседцы бутэльку. — Вось гэтым.

Нагнулася і тыцнула соску ў лычык парасяці. Яно прагна схапілася за соску, пачало яе смактаць, пявільваць ад асалоды хвосцікам-вужачкай.

— Год буду яго карміць і даглядаць, каб вялікі і гладкі вырас парсюк. Каб багата сала і мяса на ім нарасло. А потым напішу сынам: прыязджайце калоць. Ці прыедуць? Як ты думаеш?

О-го! — выгукнула Прося. — На крылах прыляцяць! Табе толькі застанецца вушкі ды ножкі. І хвосцік у прыдачу...

— Ну і няхай. Няхай бяруць тое мяса і сала... А я зноў парасятка куплю. І буду гадаваць, каб зноў сыноў на сала прыманіць... Бачыць каля сябе іх вельмі ж хочацца...

# ЯК ПРАВАДЫР УСІХ НАЦЫЙ І НАРОДАЎ АСТРАЖАНЦАЎ НАКАРМІЎ...

Пажылыя астражанцы, мае аднавяскоўцы, яшчэ памятаюць сталінскі план пераўтварэння прыроды, які правадыр надумаўся здзейсніць у самыя галодныя пасляваенныя гады. Няйнакш, сумнавядомы акадэмік Лысенка са сваімі вучонымі-фантазёрамі параіў яму пасадзіць у Паволжы стэпаахоўныя лясныя палосы, каб імі затрымаць сухавеі, што часта дзьмулі з паўднёвых стэпаў і пустынь і высушвалі, выпальвалі ўсходы жыта і пшаніцы на ўраджайных прасторах чарназёмаў.

Вырашылі перш за ўсё высейваць на тых палосах, класці ў сухі пясок Паволжа жалуды, каб потым з іх выраслі, вымахалі да самага неба дубы і засланілі сабою пякучыя буры сухавеяў.

І ў багатае дубамі і жалудамі Палессе рынуліся восенню з поўдня скупшчыкі дубовага насення. Паявіліся яны і ў Астражанцы. І вяскоўцы кінуліся ў дубнякі збіраць жалуды. За іх сталінскія лесапасадчыкі грошай не давалі, а абменьвалі жалуды на авёс. Калі па-цяперашняму казаць, дык рабілі такі бартар: пуд жалудоў абменьвалі на пуд аўса. Галодным астражанцам падалося, што гэта манна нябесная. Трэба ж было такому здарыцца: за мех жалудоў, якімі была вымашчана ў дубняках зямля, давалі мех аўса! У калгасе трэба было год працаваць, каб атрымаць на працадні столькі збожжа. А тут за дзень усёй сям'ёю награбеш пад дубамі некалькі мяхоў жалудоў, прывалачэш у вёску на прыёмны пункт — абменьвай на авёс.

Цяпер у кожнай хаце, прапусціўшы праз жорны авёс і прасеяўшы яго рэшатамі, астражанцы з аўсянай мукі пяклі аладкі, варылі кашу і кісель. Аб'ядаліся аўсяным харчам з галадоўкі і малыя, і старыя.

А астражанскія жалуды, укінутыя ў гарачы паўднёвы пясок, не ўзышлі на стэпаахоўных лясных палосах, не прыжыліся на чужой зямлі. Там і цяпер гуляюць сухавеі, прасейваюць у стэпе пясок, як аўсяную муку праз астражанскія рэшаты.



## ПЕРААДОЛЕЎ ХВАРОБУ

Дабіўся ўсё-такі чалавек свайго: у музычнай гасцінай у Віцебску адкрылася персанальная выстава яго карцін. У 16 гадоў Мікалай Сівы выпадкова атрымаў удар нажом у спіну і апынуўся на бальнічным ложку. Інвалід, што тут гаварыць. Але яго сілы і энергія дапамаглі выжыць і нават паступіць на мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута. Потым працаваў у праектнай майстэрні, у вольны ад работы час маляваў. Хвароба ўсадзіла яго ў інвалідную каляску, але інвалідам зрабіць не змагла. І вось доказ — яго першая персанальная выстава.

**Аляксандр ХІТРОЎ. БелТА.**

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 604 экз. Індэкс 63854. Зак. 369.
Падпісана да друку 1. 03. 1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

НАШ АДРАС:
220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 13-31-97,
13-32-80, 13-30-15,
84-76-56, 13-37-82.